

# НАШ РОДНЫ МІНСК

Адзінаццаць год назад у цёплы ліпеньскі вечар над сталіцай нашай Радзімы — Масквой рассыпаліся прамяністыя зоры артылерыйскага салюта. Гэта Масква вітала вызваленне сталіцы Савецкай Беларусі — Мінска. Стомленыя баямі, але радасныя ад перамогі пехацінцы і танкісты, артылерысты і сапёры, салдаты, афіцэры і генералы Арміі-вызваліцельніцы ступілі на мінскія вуліцы, якія дыміліся руінамі. Пакідаючы Мінск, фашысты, відаць, думалі: «З гэтых руін ён ніколі не ўстане».

На горад яшчэ прарываліся драпежныя фашысцкія «юнкерсы» і «Фоке-вульфы». Яны прывозілі смяртэльны груз і цалялі яго скінуць на тыя кварталы, якія хоць трохі ўцалелі. З усходу на захад па Пушкінскай, па Савецкай, па Карла Маркса, Кірава і па ўсіх, што ішлі на захад, вуліцах каціліся грозная лавіна пераможцаў... Перад іх вачыма ляжаў знявечаны горад. І не было тады ім часу брацца за сякеры і кельмы. Яны толькі на сценах ацалелых дамоў, на парканах і ўсюды, дзе толькі можна было, пісалі, як дэвіз: «Родны Мінск, мы цябе ўзнімем з руін»... А потым жыхары Мінска, перабыўшы ліхую часіну, выходзілі на вуліцы, дапісвалі да салдацкага запавету сваё: «Мы цябе зробім яшчэ прыгажэйшым, чым ты быў».

Ішлі дні, тыдні, месяцы. І вось заціхлі апошнія залпы вайны. З усіх канцоў вялізнай нашай Радзімы пайшлі эшалоны ў Мінск. Яны везлі экскаватары, пад'ёмныя краны, таўравыя бэлькі, жалеза і сталь, вугаль і шкло. З зялёнага Палесся і з берагоў быстраплыннага Нёмана, з Віцебшчыны і з Магілёўшчыны пайшлі будаўнікі — муляры і атынкоўшчыкі, цесляры і чырвонадрэўшчыкі. Людзі і машыны працавалі без стомы. І ўжо ў першы год, той, хто не пабыў у Мінску хоць тыдзень, не пазнаваў яго: цэнтральная магістраль раздалася ўшыркі, а паабапал яе былі рыштаванні і рыштаванні. Мулярам, якія клалі ў сцены ружовыя цаглінкі, пачціва кланяліся прыгажуны — пад'ёмныя краны.

Але раслі не толькі кварталы вуліц. Партыя паставіла задачу — зрабіць Мінск індустрыяльным цэнтрам рэспублікі, і ў баравую цішыню прышлі экскаватары і бульдозеры. Яны ўздзіралі спрадвечныя дзірваны, а будаўнікі закладвалі падмуркі першынцаў цяжкай індустрыі — аўтамабільнага і трактарнага заводаў.

Цяпер, калі едзеш аўтобусам па Магілёўскай шашы ці трамваем з Даўгабродскай, не здзіўляешся велічным гмахам заводаў-гігантаў, не здзіўляешся ажурнай вязі металічных пераплётаў над шматлікімі новымі карпусамі. Гэта ва ўсіх нас увайшло ў звычай, стала, так сказаць, нашым жыццём. Мы сабе зараз нават уявіць не можам, як-бы гэта выглядаў наш родны Мінск, калі-б па яго вуліцах не снавалі магутныя самазвалы з бліскучым зубрам на радыятары, мінскія аўтамашыны, якія кожны з нас пазнае нават па рокату матораў. Нельга цяпер уявіць і нашых палёў без жвавых прыгажуноў-трактараў «Беларусь». Гэта наш гонар, гонар нашага маладога рабочага класа. Але не толькі мы ганарымся і радуемся поспехам аўта- і трактаразаводцаў. Магутныя машыны, якія яны выпускаюць, можна сустрэць усюды — на вялікіх будоўлях, на цалінных землях Алтая, на палях Украіны, Грузіі і Арменіі — усюды, усюды, дзе калгасныя сялянства змагаецца за выкананне задач, пастаўленых Комуністычнай партыяй па ўздыму сельскай гаспадаркі.

Цудоўна прыгожым стаў наш родны Мінск. Прайдзіце надвячоркам па яго праспектах і вуліцах. Ях хораша ў засені зялёных ліп і клёнаў, якія перасяліліся з пушчы на мінскія вуліцы і скверы.

І не толькі мінчане, усе працоўныя рэспублікі, усе савецкія людзі радуюцца новай маладосці старажытнага Мінска — горада партызанскай і працоўнай славы... І нягледзячы на тое, што гады ідуць уперад, як-бы насуперак часу, Мінск маладзее і прыгажэе з кожным днём. На сотнях будоўляў яго і цяпер кіпіць творчая работа, і куды не кінеш вокам — усюды пабачыш новабудоўлі.

На будучай Камароўскай плошчы ўзвышаюцца карпусы новага паліграфічнага камбіната. А вось тыя, хто будуюць яго. Вы бачыце іх на гэтай старонцы. І такіх, як яны, тысячы. Усе яны будуюць наш родны Мінск.

На здымку (злева направа): **будаўнікі паліграфічнага камбіната Марыя Яскевіч, Фаіна Кавалевіч, Барыс Папілуха і Міхаіл Радабольскі.**

Фото М. Ананьіна.

---

На першай старонцы вокладкі — **Г. Пятроў, адзін з лепшых тэнісістаў рэспублікі, на трэніроўцы.**

Фото А. Дзітлава.

На апошняй старонцы вокладкі — **Беларускі павільён Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.**

Фото М. Ананьіна.



Авіямадэльны спорт стаў любімым заняткам многіх піянераў і школьнікаў. Яны дабіваюцца выдатных поспехаў у будаўніцтве самых рознастайных мадэлей. На здымку: камсамольцы 31 Мінскай сярэдняй школы Георгі Залужны і Віктар Тоўсцік рыхтуюць да спаборніцтва фюзеляжную мадэль з гумавым маторчыкам.

Фото М. Мінковіча.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 7(28).

Ліпень.

1955.



Ва ўсе куткі нашай рэспублікі накіроўваюцца выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў.
На здымку: выпускнікі Мінскага лесатэхнічнага інстытута (злева направа) Рэгіна Гарабец, Аляксей Кумейша, Іван Майсеенка, Людміла Ірошнікава і Святаслаў Шкель.

Фото Ф. Бачылы.

# У ДОБРЫ ЧАС!

Здадзен апошні дзяржаўны экзамен, абаронен дыпломны праект, і з гэтага моманту цябе ўжо больш не называюць студэнтам, дарагі таварыш! Цяпер ты ўжо выкладчык, аграном, урач, інжынер. Ты, магчыма, яшчэ і не прызвычаіўся да самога гучання гэтых слоў і з затоеным у душы хваляваннем думаеш аб сваёй будучай рабоце, аб тым, што вопыту, навыкаў у цябе малавата. Гэта ўсё прыдзе з часам. Галоўнае — ты павінен любіць сваю прафесію, сваю справу, аддавацца ёй усёй душой і сэрцам.

З лёгкім сумам успамінаеш ты свой інстытут, аўдыторыі, выкладчыкаў, таварышаў — усё тое, з чым ты зрадніўся за свае студэнцкія гады, што стала табе дарагім і блізкім. Так, гэты час быў сапраўды цудоўным. Былі дыспуты і спрэчкі, была сапраўдная дружба, былі чулыя таварышы, вопытныя прафесары і выкладчыкі. Прышоў ты ў інстытут нясмелым дзесяцікласнікам з гарачай марай— авалодаць навукай, стаць спецыялістам сваёй справы, карысным грамадзянінам сваёй любімай Радзімы. Цяпер твая мара здзейснілася. Што-ж ёсць лепшага ў жыцці, як не спраўджаная мара, як не ажыццяўленне запаветнага жадання!

Ты, пэўна, ведаеш, дружа, што ні адна дзяржава ў свеце так не клапоціцца аб студэнтах, як наша савецкая Радзіма. Да тваіх паслуг было ўсё — прасторныя аўдыторыі, інтэрнаты, бібліятэкі, змястоўныя лекцыі. Дзяржава вучыла цябе, плаціла табе стыпендыю і жадала толькі аднаго: каб ты як мага лепш вучыўся, набіраўся пабольш ведаў, якія будуць так неабходны для тваёй работы. Ты здаў за гэтыя гады нямала залікаў і экзаменаў, але не забывай, што самы галоўны твой экзамен наперадзе. І вытрымаеш ты яго паспяхова толькі тады, калі з усім запалам маладосці аддасіся даручанай табе рабоце, станеш майстрам сваёй справы.

Ва ўсіх кутках нашай неабсяжнай Радзімы ідзе будаўніцтва самага велічнага ў свеце комуністычнага грамадства. У нашай краіне робіцца ўсё неабходнае дзеля шчасця і радасці чалавека, дзеля яго доўгалецця, дзеля мірнага светлага жыцця. Ажываюць бясплодныя стэпы, абвадняюцца пустыні, узводзяцца гіганцкія электрастанцыі, уводзяцца ў строй новыя фабрыкі, заводы, чыгункі, вырастаюць новыя гарады, насаджваюцца лясы. Савецкі чалавек падпарадкоўвае сваёй уладзе прыроду, вырошчвае нечуваныя раней ураджаі, прымушае служыць на карысць чалавецтву найвялікшае дасягненне чалавечага генія — энергію атама. Тваё месца ў першых радах будаўнікоў комунізма, дарагі таварыш!

Ты памятаеш, дружа, словы нашага выдатнага пісьменніка Максіма Горкага аб тым, што ў жыцці заўсёды знойдзецца месца для подзвігаў. Нашай краіне патрэбны ўмелыя рукі і дапытлівы розум. Хто-б ты ні быў—аграном, настаўнік, урач, механізатар—твая праца неабходна Радзіме, яна вельмі важная і патрэбная, ты можаш стаць героем працы. Змагайся з руцінай, коснасцю, будзь наватарам у сваёй справе, не спыняйся на дасягнутым, бо наша імклівае савецкае жыццё не церпіць застою. Яно кліча наперад, да новых поспехаў і перамог.

Жадаем табе, дарагі таварыш і дружа, выдатных поспехаў на тваім высокародным шляху.

У добры час!

# СТАРШЫНЯ

Раман САБАЛЕНКА

Нарыс

Уладзімір Пятровіч Пырко ў адказ на заклік партыі і ўрада напісаў заяву ў партарганізацыю абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі з просьбай накіраваць яго ў адсталы калгас. Яго просьба была задаволена спачатку партарганізацыяй, а пасля Маладзечанскім райкомам партыі. На другі дзень ён сеў на толькі што куплены матацыкл і паехаў у выглядзіны. Даехаўшы па Вільнюскай шашы да школы, Пырко звярнуў улева, і матор зароў па гразкай палявой дарозе. Машына буксавала, і перад самым праўленнем яе давялося весці ў руках. Злосць узяла Уладзіміра Пятровіча: «Гэта-ж не ты на ёй едзеш, а яна на табе». Як толькі ён падкаціў матацыкл пад хату, дзе мясцілася праўленне калгаса, заенчыў на прывязі сабака, і на яго брэх з хаты выйшаў сакратар комсамольскай арганізацыі Хведар Семаш.

— Вы каго пытаеце, таварыш? — звярнуўся ён да Уладзіміра Пятровіча.

— Мне хацелася-б старшыню вашага пабачыць.

— Наш старшыня...—пачаў Хведар і асекся на поўслове.

Ён, відаць, думаў, што гэта прыехаў які прадстаўнік, а старшыня іх, Кажарскі, які толькі што прыехаў у праўленне, меў не вельмі прыстойны выгляд. Ён быў заспаны, азызлы. Адразу можна было здагадацца, што ўсю ноч чалавек добра частаваўся. Хведару не хацелася, каб прадстаўнік з вобласці бачыў такім іх старшыню. Няхай яны, дык ім звыкла ўжо бачыць свайго старшыню пад мухаю. Не канешне-ж, каб і чужы чалавек бачыў яго такім. Але, ці то пачуўшы гаворку, ці так па якой патрэбе, на ганак выйшаў сам Кажарскі. Няголены твар надаваў яму старэчы выгляд. Кажарскі зірнуў на Пырко, і твар яго перасмыкнуўся ні то болем, ні то злосцю. Так і здавалася, што вось ён скажа:

— На чорта лысага вы сюды цягаецеся! Усёадно ніякая рады не дасце.

Але Уладзімір Пятровіч Пырко працягнуў Кажарскаму сваю дужую руку і сказаў:

— Я, ведаеце от, прыехаў пазнаёміцца з гаспадаркай і, калі людзі выберуць мяне, дык прыняць ад вас калгас.

— Ну, то што-ж, калі ласка. Усё тут на віду.

Хведар Семаш сумеўся, як пачуў гэтую гаворку. Кажарскі тым часам, як-бы атрэпваючы санлівасць, ажывіўся.

— Ну, то што-ж, у добры час, як той казаў. Толькі, як комуніст комуніста, хацеў-бы папярэдзіць вас: дрэнь справы ў калгасе.

— Як-жа гэта вы так дагаспадарыліся?

— Ліха яго ведае! Неяк так сталася. Зіма зацягнулася. Ды і людзі ў нас, трэба сказаць, не туды глядзяць. Такіх людзей рэдка дзе пашукаць, кожны наравіць толькі сабе ўрваць.

Уладзімір Пятровіч хацеў запярэчыць Кажарскаму, але не паспеў, бо на дапамогу прышоў Хведар Семаш, які слухаў усю іх гаворку.

— А вы на людзей не кляпліце лішне. Лепш, на сябе паглядзіце. Людзі нашы, як людзі. На добры лад, дык яны рук сваіх не пашкадуюць і мазаля не пабаяцца. Дзе-ж вы тых людзей нашых бачылі? Яны-ж у шынок з вамі не ходзяць...

Кажарскі збянтэжыўся, пачуўшы гэтыя словы з вуснаў комсамольца. Ён не чакаў, што Хведар Семаш гэтак зняважыць яго. Таму ён нават не знайшоўся, што адказаць Хведару, які падыйшоў бліжэй да іх і на вачах неяк выпрастаўся і як-бы падрос.

— Нам, каб добры гаспадар, дык калгас наш стане на ногі.

— Праўду кажаце,— падтрымаў Семаша Уладзімір Пятровіч. — Трэба, каб на ногі стаў. Абавязкова трэба.

— Дык што загадаеце рабіць, таварыш новы старшыня? — з нейкай колкай іроніяй спытаў Кажарскі.

— Што хочаце. Я-ж пакуль тут яшчэ ні госць, ні гаспадар, — адказаў Пырко.

# ПРЫЕХАЎ...

Кажарскі, увабраўшы ў плечы галаву, павярнуўся і, не развітаўшыся, пашыбаваў сцяжынкай у напрамку вёскі Баяры. Пырко і сакратар комсамольскай арганізацыі засталіся ўдвох ля праўлення. Уладзімір Пятровіч спытаў у Семаша, дзе знаходзіцца стайня. Ён меўся ўзяць каня і сёння-ж аб'ехаць усе дзевяць брыгад.

Вестка аб прыездзе новага старшыні як-бы на крыллях разлярцелася па ўсіх брыгадах. Толькі і было гаворкі, што пра новага старшыню. Конюх дзевятай брыгады Ігнат Міхайлавіч Посах да таго прызвычаіўся за свае пяць год працы на стайні да перамены старшынь, што вестку аб новым старшыні ўспрыняў абыякава. Ён тупаў па стайні, калі ў яе зайшоў высокі, ладна складзены чалавек.

— Дзень добры вам, — сказаў ён.

— Добры дзень,—адказаў Ігнат і панёс бярэмя трасянкі ў самы крайні станок.

— Чаму-ж гэта вы коней не мурагом, а трасянкай частуеце?

— Наш мурог даўно ўжо сагнуўся ў рог. Трасянкі і тае толькі на пачастунак засталося.

— Дрэнна... Відаць, забылі, што да Юр'я павінен быць мурог і ў дурня, а ў добрага гаспадара мурог да сёмухі не пакідае двара.

Ігнат спадылба зірнуў на Уладзіміра Пятровіча і, відаць, працікнуўшыся да яго павагай, сказаў:

— Прабачце. А вы хто такі будзеце?

— Так сабе. Ніхто покуль што.

Ігнат, вядома, ведаў, што гэта і ёсць той новы старшыня, пра якога пайшла пагалоска па ўсіх вёсках калгаса. Ён ведаў, як і большасць калгаснікаў, што Пырко мае агранамічную асвету і ведае, як абыходзіцца з зямелькай. Не дарма-ж працаваў ён у абласным упраўленні сельскай гаспадаркі.

— Кажуць, што корму ў калгасе вобмаль, а тым часам вашы коні яшчэ ніштаватыя, — сказаў Уладзімір Пятровіч.

— Ніштаватыя, кажаце? Ну, то дзякую вам.

— Завошта?

— Як завошта? А затое, што можа вы адзіны чалавек праўду сказалі. А то-ж усе шкаляюць ды шкаляюць. Маўляў, ты такі, ты сякі. А паспрабуй на такой бяскорміцы, каб у каня ўздухавіны не запалі.

Ігнат, мусі быць, доўга-б яшчэ гаварыў, калі-б Уладзімір Пятровіч не перабіў яго.

— Можа-б вы мне якога коніка падсядлалі. Хачу праехаць па брыгадах.

— Вам на абы якога каня дык і садзіцца нельга, ногі па зямлі будуць валачыся. Я от вам вось гэтага варанца хіба засядлаю.

Ігнат хуценька вывеў варанога спраўнага коніка і хацеў ужо здымаць з калка сядло і ўскінуць каню на спіну. Але Уладзімір Пятровіч апярэдзіў конюха. Ён сам хуценька ўзяў сядло і спрытна паклаў яго на каня, падцягнуў папругі і змерыў рукой, ці добра будуць па даўжыні страмёны. Ігнат тым часам надзеў вуздэчку і ўправіў каню ў зубы цуглі.

— От вам, калі ласка!

Уладзімір Пятровіч узяў паваддзе з рук Ігната, вывеў каня за вароты стайні і спрытна ўскочыў на яго. Праз момант Ігнат бачыў, як падчквалася то ўгору, то ўніз постаць чалавека.

— Гэты, мабыць, каля коней хадзіў, — дабрадушна сказаў сам сабе Ігнат. Зірнуў яшчэ раз у бяскрайнюю далячынь веснавога прастору, зацягнутага хмурнасцю даджджлівага дня, і дадаў:— З гэтага, мабыць, будзе гаспадар. Дай божа, каб хоць на гэты раз чалавек трапіўся.

А тым часам Уладзімір Пятровіч пад'язджаў да канцавой дамашоўскай хаты, дзе на вуліцы яго сустракалі Яцкевічыха, Зяневіч, Павел Дудко і ўсе тыя, хто асабліва ласы быў на навіну.

Даўно ўжо не было такога сходу ў калгасе імя Дзімітрава. Прышлі ўсе, ад старога да малога.

Пакуль старыя гарнулі цыгаркі і патроху ўлягалася людская гамонка, на сцэну ўзышоў Уладзімір Пятровіч. Позірк, якім ён акінуў людзей, быў суровы і праніклівы. Усе неяк аж сціхлі. Выбралі прэзідыум, і старшыня сходу даў слова Пырко.

— Цяжка, таварышы, лячыць хворага, — пачаў Уладзімір Пятровіч, — асабліва, калі ён сам не хоча падымацца з пасцелі. Яму даюць кроплі, а ён іх — назад. Такім хворым, але не безнадзейным, канешне, уяўляецца мне і наш калгас.

— Бач, прысвоіў ужо, — буркнуў, нібы сам сабе, але так, каб пачулі тыя, што былі поплеч, Зяневіч. Буркнуў і азірнуўся на людзей.

— Дрэнныя дактары яго лячылі, — крыкнуў яшчэ нехта з людскога натоўпу.

— Можа і дрэнныя. Вам відней, таварышы, — працягваў Пырко.— А цяпер партыя ўзялася лячыць такіх хворых. Нельга, каб у краіне былі такія калгасы, як наш. Дык наша партыя, савецкі ўрад заклікалі комуністаў памагчы калгасам. Тысячы нас адгукнуліся на заклік партыі. І я вось прыехаў да вас. Але адзін, як той казаў, у полі не воін. Калі мы ўсім гуртам не возьмемся, дык нам тут і гаворкі няма чаго разводзіць.

— А як вы, скажыце, на дні ў нас будзеце працаваць, ці на грошы? — кінула з натоўпу запытанне Яцкевічыха.

— Я буду так, як і вы. Тое, што будзе вам, тое будзе і мне, калі вы мяне выбераце за старшыню...

— Калі на дні, то няхай пабудзе з які год, як і Кажарскі.

Уладзіміру Пятровічу, які ўсё перадумаў за гэтыя колькі дзён, крыўдна было слухаць такія словы. Але ён разумеў людзей. Калгаснікі зняверыліся ў старшынях. Ды і як яны маглі не зняверыцца. У леташнім годзе Кажарскі дакляраваў калгаснікам залатыя галушкі, а давялося выдаваць на працадні, дык шасці брыгадам

## ПІОНЕРСКАЕ ЛЕТА

Закончыліся заняткі ў школах. Прышло піонерскае лета — незабыўны час турысцкіх паходаў, піонерскіх кастроў, начлегаў пад адкрытым небам. Тысячы школьнікаў выехалі з гарадоў у піонерскія лагеры, многія адправіліся ў паходы па роднаму краю, а тыя, што засталіся ў горадзе, знойдуць шмат цікавых спраў у палацах піонераў, у лагерах, абсталяваных у школах. За лета рабяты загараць, набяруцца сіл, а там — зноў за вучобу. А пакуль іх чакае цікавы, захапляючы адпачынак.

... Ждановічы. Цудоўны куток, курортнае месца. Тут размяшчаецца некалькі лагераў. Сярод іх — піонерскі лагер Міністэрства лясной і папяровай прамысловасці БССР. Утульныя, добра абсталяваныя дачы, піонерская лінейка, шмат розных гульняў. Кожнаму тут знойдзецца справа па душы. Хочаш — займайся спортам, малюй або адпачывай у гамаку. Знойдуцца справы і для юных тэхнікаў, авіямадэлістаў. А для юннатаў у піонерскім лагеры ёсць невялікі вопытны ўчастак. Рабяты тут могуць прадаўжаць свае доследы.

Вось у лагер прыехала першая змена. Не прайшло і двух гадзін, як рабяты ведалі ўсё: дзе знаходзіцца спартыўная пляцоўка, дзе можна пагуляць у більярд. А дзве юннаткі адразу-ж пабеглі на вопытны ўчастак. Ну, так і ёсць: дзе-ні-дзе з'явілася пустазелле сярод пышных кустоў клубнікі. Дзяўчынкі старанна агледзелі кожны куст, вырвалі пустазелле, а ўвечары яны запішуць у свой дзённік вынікі назірання.



На здымку: вучні на вопытным участку піонерскага лагера Міністэрства лясной і папяровай прамысловасці БССР.

Фото Ф. Чэховіча.

выдалі авансам па якіх чатырыста грамаў збажыны, а потым спахапіліся, што не застаецца і на насенне, дык астатнім тром брыгадам і макавага зярнятка не далі. От табе і залатыя галушкі Кажарскага!

— Я вам, таварышы не буду нічога такога абяцаць, — гучэў над шумным натоўпам голас Пырко,— але калі мы ўсе, як адзін, возьмемся, як мае быць, ды вырасцім добры ўраджай, асабліва ільну ды кукурузы, дык увосень, я думаю, выдадзім самае малое па паўтара кілаграма зерня ды хоць па якому рублю грошай на працадзень. От што я вам скажу. І гэта ўжо ўсё падлічыў, памеркаваў.

Там часам з кутка пачуўся крыху хрыплаваты, добра-такі пракураны голас Пятра Кісяля:

— Яно, канешне, людзі добрыя, тое, што гаворыць новы наш таварыш, — чыстая праўда. У нас некаторыя прывыклі жыць так: хоць не ўежна, дык улежна. А пад ляжачы камень дык і вада-ж не цячэ. От хоць-бы сабе той наш Зяневіч. Лясы-балясы дык ён тачыць умее, а каб з касой ці з плугам, дык ён зломак. Або вось Галіна Бялько ўцяла за год сем працадзён. Дык адкуль яно тым часам што возьмецца? А я вось за гэтыя дні прыглядзеўся да нашага новага таварыша. Дык ён, я вам скажу, хоць і гарадскі чалавек, а руплівы, гаспадарлівы. Нават за гэтыя колькі дзён дапаў усюды, усё паглядзеў, усё праверыў і ні разу не заспаў. А нам такі чалавек і трэба, каб ён быў справядлівы, руплівы, ды каб, барані божа, у бутэльку не заглядаў, як той Кажарскі.

Сход зацягнуўся надоўга, аж пад раніцу. За Уладзіміра Пятровіча Пырко прагаласавалі дружна, амаль аднагалосна.

Выходзячы са сходу, людзі перагаварваліся:

— А такі праўду казалі. З гэтага чалавека будзе старшыня.

Мацвей Антонавіч Пішчынскі — намеснік старшыні калгаса, таксама з падазронасцю сустрэў новага старшыню. Ён не прывык нічога браць на веру. Ды і як яму было браць на веру — ён ужо пяцёх старшынь перабыў і ні ў аднаго не давялося паверыць. «А можа і гэты такі?» — думаў ён сам сабе. Але вось яшчэ на світанні ля мацвеевай хаты залапатаў матацыкл і раптам змоўк. Расчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшоў Уладзімір Пятровіч Пырко. Павітаўшыся з Мацвеем Антонавічам, ён адразу-ж звярнуўся да старога:

— Я от, Мацвей Антонавіч, заехаў да вас параіцца. Думаю заўтра сабраць шырокае праўленне ды пагаварыць з людзьмі, як далей жыць і працаваць будзем. Дык можа-б і вы што мне падказалі. Вы-ж тут больш ведаеце.

Мацвей Антонавіч задаволена ўсміхнуўся: яшчэ-ж ніколі таго не было, каб старшыня з ім раіўся наконт планаў.

— Ды яно, канешне, адна галава добра, а дзве лепш,—дыпламатычна згадзіўся намеснік.

— От калі чалавеку, скажам, трэба спехам куды-небудзь дайсці, — выказваў ужо сваю думку старшыня, — дык ён, вядома, выбірае карацейшую дарогу. Так от і нам трэба выбраць карацейшую дарогу.

— Правільна вы кажаце, Уладзімір Пятровіч. Калі-б мы выдалі хоць патроху на працадзень, дык нам-бы з вамі тады толькі песні спяваць.

— Можа песні яшчэ і ранавата будзе спяваць, але тым часам мы хоць на ногі-б трывала сталі. І от, Мацвей Антонавіч, гэтым, як мне здаецца, карацейшым шляхам з'яўляецца вось што: лён і кукуруза. Калі мы, скажам, пасеем 70 гектараў ільну! Няхай самае малое ён уродзіць па 4 цэнтнеры валакна з гектара ды па столькі-ж насення, дык гэта-ж пад мільён рублёў прыбытак наш падбярэцца. Ды дзяржава нам за лянок пшанічкі колькі дасць!

— У нас і летась, каб на добры лад пайшло, было 35 гектараў. І лянок-такі ніштаваты быў. Ды змарнавалі яго. Гэтак ён і пагніў на сцелішчы. Звенняў не было, не было каму рупіцца.

— Гэтакага сёлета не дапусцім, — упэўнена сказаў старшыня. — Зноў-жа такі 80 гектараў кукурузы пасадзім... А гэта каровам сілас, а ад іх узамен малако. Горад у нас пад бокам, вазі толькі туды малачко, і ў калгасную касу грошы самі прыдуць. А яшчэ нeадкладнае наша: пабудаваць кароўнік, цэментаваныя траншэі тон на 500 сіласу. Гэта ўсё за сёлетняе лета трэба зрабіць.

— А ці не мнагавата? — усумніўся Мацвей Антонавіч.

— Яно можа і мнагавата пры нашай беднасці, але калі мы гэтага не зробім, дык ломаны грош нам цана будзе.

— А вы, Уладзімір Пятровіч, прышчаміце трохі хваста гэтаму нашаму Зяневічу. Ходзіць па вёсцы і плешча языком: маўляў, вельмі ўжо бярэцца аберуч за нас гэты старшыня. А мы не аднаго такога перабылі.

Яны яшчэ пасядзелі крыху, абмеркавалі, каго паставіць за брыгадзіраў, як лепш арганізаваць будаўніцтва кароўніка. На развітанне Пырко сказаў:

— Не забудзьце-ж увечары на праўленне.

А ўвечары на пасяджэнне праўлення найшло людзей, як на сход. Прышлі ўсе дзевяць брыгадзіраў, жывёлаводы, будаўнікі. Кожнага, хто толькі хацеў гаварыць, старшыня ўважліва выслухоўваў, запісваў усё ў сваю кніжачку. А потым сам падняўся і пачаў расказваць аб плане.

Калі ўжо людзі разыходзіліся, старшыня пашукаў вачыма Хведара Семаша і, убачыўшы яго, неяк аж павесялеў.

— Дык от што, ты, братка, камсамол свой падымай на ногі. Гэта-ж звеннявымі па кукурузе ды па ільну толькі камсамольцам і быць.

— Добра, таварыш старшыня. Мы ўжо меркавалі, думалі. Знойдзем добрых людзей.

Дні ішлі неяк неўзаметку. Нахапіўся ўжо і май, а людзі на сонцы не награліся. Запазнілася вясна-матухна. Аднак людзям нельга было ў шапку спаць. А старшыні тым больш. З самага золку да змяркання не было спачынку новаму «Іжу». Пырко купіў яго акурат у той дзень, калі ўжо было вырашана, што ідзе старшынёй калгаса. А на спідометры ўжо каля тысячы кіламетраў наматалася. Значыць, хапае работы машыне. Гаспадар такі, што не дае ёй спакою.

Вось і зараз ён едзе ў Дамашы. Там пільная справа. Учора на сходзе брыгады, калі зайшла гаворка пра кукурузу, дык калгаснікі прапанавалі пасадзіць яе на іх сядзібных участках. Там яны пяць год узапар садзяць бульбу. Зямля добра ўгноеная. А бульба чарвівее. Кукуруза на такой зямлі дык пабуяе. Ды раз самі калгаснікі падахвоціліся на такую справу, дык чаму ім не даць дзе ў іншым месцы зямлі пад сядзібныя ўчасткі. Гэта-ж добра і калгасу і калгаснікам.

Толькі збочыў з шашы Уладзімір Пятровіч, як убачыў чалавека, які ехаў конна. Ён здалёк пазнаў Мацвея Антонавіча. Павіталіся.

— Дзе ты быў, старына? — спытаў Уладзімір Пятровіч.

— У Дамашах. Праява, Уладзімір Пятровіч, дый годзе. Бывала, у Дамашах да адзінаццаці гадзін якіх чатырох чалавек успорыш на работу. А то-ж дзіва дый годзе: прыехаў я туды ў дзевяць гадзін— гляджу і вачам сваім не даю веры — семдзесят чалавек вываліла на работу. А камсамольцы нашы, як мурашкі, дружна бяруцца. От што значыць, адчулі руку гаспадарскую.

— Слабавата яшчэ адчулі, Мацвей Антонавіч. Трэба, каб не ў дзевяць гадзін выходзілі ў поле, а ў шэсць ці ў сем. От што, старына, ты там прасачы, каб у дзянісавай брыгадзе з вазамі, што возяць гной, паражняком не ездзілі назад, — каменя набіралі з поля. Нам-жа яго столькі трэба на падмуркі.

— Добра, будзе зроблена, таварыш старшыня, — сказаў Пішчынскі. А калі затарахцеў матацыкл, ён яшчэ доўга глядзеў услед, і ў вачах яго свяцілася нейкая цеплыня. Відаць было, што ён любаваўся гэтым чалавекам.

На дамашоўскай вуліцы Уладзімір Пятровіч сустрэў Зяневіча. Той ішоў, відаць, без дай прычыны. Старшыня рэзка затармазіў машыну і гукнуў:

— Таварыш Зяневіч, пачакай на адно слова.

Але той не спыняўся, хоць не можа быць, каб ён не чуў старшынёвых слоў. Тады Пырко ўжо крыкнуў са злосцю:

— Эй, грамадзянін Зяневіч, пачакайце. Хадзіце сюды!

Той азірнуўся і нехаця пайшоў да матацыкла. Чалавек быў нейкі пануры, з вачэй яго аж красала злосць.

— Ну, чаго вы?—стараючыся не глядзець у вочы старшыні, спытаў Зяневіч.

— Што-ж гэта вы, бацюхна мой, лынды б'еце замест таго, каб працаваць, як добрыя людзі. Ды вунь з вас ужо нават Яцкевічыха смяецца.

— Няхай смяецца, калі ёй смешна. А я дурных мазалёў не хачу сабе на рукі. Няхай дурні стараюцца.

— А вы, відаць, вельмі разумны. Але я на ваш розум не пагляджу. Не выпрацуеце мінімума працадзён, — паганай мятлой з калгаса вымецем. Так і зарубіце сабе на носе.

— Усё? — панура спытаў Зяневіч.

— Усё! Ідзіце, працуйце.

Гэтая сустрэча сапсавала крыху настрой Уладзіміру Пятровічу. Але калі ён пад'ехаў да хаты брыгадзіра, да яго зноў вярнулася радаснае адчуванне першай перамогі. На палях ужо быў пасеяны лён, зарунела ярына, садзілі бульбу і кукурузу. Людзі працавалі дружным і зладжаным калектывам. Аднак новы старшыня не шукаў сабе ніякага заспакаення. Чамусьці на памяць яму прышлі словы: «Комуністы нідзе не шукаюць спакою сабе». Так і ён, як комуніст, ідзе насустрач вялікаму творчаму жыццю. Няхай яно квітнее. Уладзімір Пятровіч адчуў сябе часцінкай той новай сілы, на якую спадзяецца наша партыя ў ажыццяўленні сваёй баявой праграмы найвялікшага ўздыму сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

**Маладзечанскі раён.**



**Уладзімір Пятровіч Пырко** (злева) **прыехаў у поле, каб азнаёміцца з ходам работ.**

Унізе: **У. П. Пырко і намеснік старшыні калгаса М. А. Пішчынскі чытаюць у абласной газеце карэспандэнцыю пра іх першыя поспехі.**

Справа: **Дзеці калгасніка па-свойму знаёмяцца са старшынёй калгаса. Пакуль Уладзімір Пятровіч размаўляў з Валянцінай Пішчынскай, яе дачка Іра села на матацыкл.**

**— Магу і пакатаць, калі не баішся! — ласкава сказаў старшыня.**

(Фотаздымкі да нарыса Р. Сабаленкі «Старшыня прыехаў»).

Фото А. Дзітлава.





**Прыгажэе сталіца Беларусі — Мінск. На яго вуліцах бесперапынна растуць новыя дамы. На будаўніцтве аднаго з іх на вуліцы Леніна працуе перадавая ў Мінску маладзёжная комплексная брыгада каменшчыкаў.**

На здымку: **Брыгадзір І. Казакевіч** (крайні справа) **правярае якасць кладкі сцен.**

Фото А. Дзітлава.

# Дружба вялікіх народаў

## СЛОВА ДА СЯБРОЎ

**ЛІ ВЭЙ,**
**намеснік сакратара Фуцьзяньскага камітэта Новадэмакратычнага Саюза Моладзі Кітая**

Вясной гэтага года ў Мінску гасціла кітайская маладзёжная дэлегацыя. Рэдакцыя часопіса «Маладосць» звярнулася да аднаго з членаў дэлегацыі з просьбай расказаць нашым чытачам аб сваіх уражаннях ад паездкі ў Беларусь. Ніжэй мы друкуем яго выступленне.

Я вельмі шчаслівы, што ў складзе кітайскай маладзёжнай дэлегацыі наведаў Савецкі Саюз і сталіцу Беларусі — Мінск. За час прабывання тут я з радасцю пераканаўся ў тым, што народ і моладзь Беларусі сваімі працоўнымі рукамі ўзнялі Мінск з руін і разбурэнняў, зрабілі яго цудоўным горадам.

Я бачыў, як моладзь самааддана працуе, як яна актыўна ўдзельнічае ў сацыялістычным спаборніцтве, павышаючы прадукцыйнасць працы, датэрмінова выконваючы заданні апошняга года пяцігодкі. Я бачыў, як сельская моладзь ажыццяўляе рашэнні Камуністычнай партыі па ўзняццю сельскай гаспадаркі: яна арганізоўвае маладзёжныя брыгады, змагаецца за высокі ўраджай кукурузы, збірае ўгнаенні, рыхтуе корм для жывёлы, развівае жывёлагадоўлю — і ва ўсім гэтым дамагаецца вялікіх поспехаў.

Я таксама бачыў, як у школах, спалучаючы тэорыю і практыку, настойліва вучацца будучыя будаўнікі сацыялізма: яны набываюць глыбокія і трывалыя веды, каб стаць усебакова развітымі людзьмі.

Усё гэта гаворыць аб тым, што перадавая моладзь Беларусі, таксама як і ўся савецкая моладзь, — гэта смелае, стойкае, жыццерадаснае, працалюбівае, баявое пакаленне маладых. Яна — узор для нашай кітайскай моладзі. Я вучуся ў яе нястомнаму імкненню да ведаў, нястомнай энергіі ў вучобе.

Мы, кітайскі народ і кітайская моладзь, пад кіраўніцтвам кітайскай Камуністычнай партыі і старшыні Мао, з дапамогай вялікага Савецкага Саюза ідзем наперад да сацыялізма. У гэтым годзе, трэцім годзе першай пяцігодкі, мы дамагліся вялікіх поспехаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. З 156 прамысловых прадпрыемстваў, якія дапамагае будаваць Савецкі Саюз, многія ўжо дзейнічаюць. Моладзь у гэтым будаўніцтве прымае самы непасрэдны ўдзел. У краіне створана 600 тысяч сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў. 80 працэнтаў сельскай моладзі з'яўляюцца членамі гэтых кааператываў. 1.300.000 членаў Новадэмакратычнага Саюза Моладзі кіруюць сельскагаспадарчымі кааператывамі — яны працуюць брыгадзірамі, старшынямі і г. д. Сельская моладзь актыўна змагаецца за калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Моладзь усёй краіны пад лозунгам «Усё для сацыялізма» старанна працуе, упарта вучыцца для таго, каб ператварыць сваю Радзіму ў вялікую краіну сацыялізма.

Мы добра ведаем, што амерыканскі імперыялізм імкнецца распаліць агрэсіўную вайну, а здрадніцкая кліка Чан Кай-шы пад крылом амерыканскага імперыялізма ўсталявалася на востраве Тайвань. Кітайская моладзь разам з усім кітайскім народам нястомна змагаецца за тое, каб забяспечыць будаўніцтва сацыялізма ў нашай краіне, каб вызваліць сваю тэрыторыю Тайвань, каб захаваць мір на Далёкім Усходзе і ва ўсім свеце.

Дружба паміж народамі і моладдзю нашых двух дзяржаў—самая вялікая дружба. У гэтым я пераканаўся за час свайго прабывання ў Мінску. Я сустракаўся з піянерамі і моладдзю на заводах, у вёсцы, у навуковых установах, і хоць мы размаўлялі на розных мовах, але ў моцных поцісках рук, у сяброўскіх усмешках, у палымяных поглядах мы выказвалі зразумелую кожнаму нашу ўзаемную і шчырую сімпатыю. Наша дружба, вечная і непарушная, будзе развівацца з кожным днём і зробіцца яшчэ больш глыбокай. Наша супрацоўніцтва з'яўляецца гарантыяй міру на Далёкім Усходзе і ва ўсім свеце, з'яўляецца крыніцай невычарпальнай сілы.

Я, як член кітайскай маладзёжнай дэлегацыі, абавязкова раскажу кітайскай моладзі аб усім, што я бачыў, чуў, адчуваў, чаму навучыўся ў Савецкім Саюзе, асабліва аб любві савецкай моладзі да моладзі Кітая.

Няхай жыве непарушная дружба паміж моладдзю СССР і Кітая!

Моцна ўзяўшыся за рукі — наперад, да камунізма!

**Пераклад з кітайскай мовы зроблены ў Ленінградскім універсітэце Б. МАСЦІНСКАЙ.**



**У Кітайскім народным універсітэце ў Пекіне ёсць факультэт рускай мовы. Тут вучацца і прадстаўнікі моладзі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.** На здымку: **савецкая выкладчыца Г. В. Кірыленка дае тлумачэнне Юнь Шы Хуэй — дзяўчыне з В'етнама.**

Фота агенцтва Сіньхуа.

## Лу Сінь аб беларускай культуры

Многія са студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта праяўляюць шчыры інтарэс да кітайскай культуры. Выпускніцы філалагічнага факультэта Анастасіі Янголь удалося нават адкрыць новую старонку адносна інтарэсу Лу Сіня да беларускай культуры. Было вядома, што вялікі кітайскі пісьменнік, якога ўсяляк цкавалі чанкайшысты, у 1936 годзе арганізаваў выстаўку савецкай гравюры ў Шанхаі. Адзначаючы ідэйныя і мастацкія вартасці савецкай кніжнай графікі, Лу Сінь зазначыў, што «да перамогі Кастрычніка творы не толькі рускіх, але і украінскіх, беларускіх мастакоў не толькі не маглі-б быць прадэманстраваны ў Кітаі, але і наўрад ці маглі паявіцца».

Студэнтка хацела ўстанавіць, якія іменна творы беларускай савецкай графікі звярнулі на сябе ўвагу Лу Сіня ў 1936 годзе.

Зараз вядома, што ў 1936 годзе ў Шанхаі выстаўляліся гравюры М. В. Лебедзевай — аўтара роспісаў залы Вярхоўнага Савета БССР, А. М. Бразера — аўтара замалёвак Мінска і партрэта рамесніка А. Н. Тычыны, які выстаўляў тры работы з народнага жыцця.

**Д. МАЙСЕЕЎ.**

Прайшло не так многа часу з тых памятных дзён, калі шасцісотмільённы кітайскі народ адсвяткаваў сваю вялікую перамогу. Разгром чанкайшысцкіх банд паклаў канец гаспадаранню замежных капіталістаў, якія рабілі ўсё для таго, каб трымаць Кітай у становішчы адсталай, поўкаланіяльнай краіны.

З велізарнай энергіяй прыступілі кітайскія працоўныя да індустрыялізацыі сваёй краіны. У 1953 годзе кітайскі народ прыняў першы пяцігадовы план, асноўнай задачай якога з'яўляецца развіццё цяжкай прамысловасці, як базы для індустрыялізацыі краіны, асновы сацыялістычнага пераўтварэння Кітая.

Увесь Кітай пакрыт сёння рыштаваннямі новабудоўляў. Будуюцца новыя электрастанцыі, шахты, заводы, камбінаты. Адной з такіх буйнейшых новабудоўляў з'яўляецца Аньшаньскі металургічны камбінат.

## ГОРАД СТАЛІ

Горад Аньшань размешчаны ў поўночна-ўсходнім Кітаі, на Кітайска-Чань-Чуньскай чыгунцы. Паблізу ад горада — багатыя залежы жалезнай руды і вугалю. Доўгі час у Аньшані гаспадарылі японскія захопнікі. Пры адступленні яны зрабілі ўсё, каб разбурыць металургічныя заводы. У гэтай справе ім дапамаглі амерыканскія лётчыкі, якія бамбілі завод з паветра. Работа па аднаўленню Аньшаня пачалася ў першыя-ж часы пасля перамогі народнай рэвалюцыі. Новаму Кітаю патрэбна была сталь, пракат, чыгун, трубы — прадукцыя Аньшаня. У аднаўленні буйнейшага металургічнага прадпрыемства бескарыслівую дапамогу кітайскаму народу аказаў Савецкі Саюз. Камбінат у кароткі час быў адноўлены. Значна павялічылася колькасць і якасць выпускаемай прадукцыі. У красавіку 1952 года па распрацаваных савецкімі інжынерамі праектах пачалася рэканструкцыя і расшырэнне камбіната — новае грандыёзнае будаўніцтва, у якім прымала ўдзел уся краіна. Будаўніцтва Аньшаньскага камбіната з'явілася пачаткам індустрыялізацыі Кітая.

Перад будаўнікамі Аньшаня сталі вялікія і адказныя задачы. Трэба было на працягу некалькіх год перабудаваць старое прадпрыемства, пабудаваць цэлы шэраг аўтаматычных і поўаўтаматычных сталеліцейных і пракатных заводаў і шахт, аснашчоных сучаснай тэхнікай.

Першыя новабудоўлі Аньшаня, уведзеныя ў строй, з'явіліся выдатнай школай для кітайскіх рабочых і інжынераў. Аньшаньскі камбінат стаў сапраўдная кузняй кадраў, патрэбных народнаму Кітаю для індустрыялізацыі краіны. Вопыт, набыты тут, дазволіў яшчэ хутчэй ажыццявіць планы будаўніцтва новага Кітая.

На будаўніцтве выраслі тысячы рабочых, авалодаўшых перадавымі метадамі працы. Шырока вядомымі на будаўніцтве сталі імёны маладых патрыётаў Мын Тая, Чжан Мін-шаня, Ван Цзінь-чжэна, Хуан Дэ-мао, Юань-юй — першай жанчыны-майстра доменнай печы ў Кітаі, Лі Гуй-лань — лепшай электразваршчыцы камбіната і многіх другіх.

Вопыт наватараў Аньшаньскага камбіната вывучаецца на другіх металургічных прадпрыемствах краіны. Патрыятычны пачын рабочых Аньшаня паслужыў пачаткам масавага руху па механізацыі працаёмкіх працэсаў. Нарадзіўшыся ў асяроддзі металургаў, гэты рух перакінуўся ў многія іншыя галіны прамысловасці.

**Ф. БАРАВІК.**



Возера Свіцязь стала любімым месцам адпачынку працоўных.

# ПА МЕСЦАХ АДАМА МІЦКЕВІЧА

І. НАУМЕНКА

Цудоўны далягляд адкрываецца позірку з Замкавай гары ў Новагрудку ў вячэрнія гадзіны. Сонца садзіцца якраз за высокім пірамідальнай формы ўзгоркам—«капцом» Адама Міцкевіча. Праменні заходзячага сонца залоцяць лісце клёнаў, што стаяць, нібы ганаровая варта, ля падножжа гэтага ўзгорка, а сам ён на фоне барвовага небасхілу здаецца дзіўным, казачным уцёсам. На многа міль вакол віднеюцца цёмназялёныя пералескі, раскіданыя па схілах узгоркаў, у далечыні — ахутаныя сіняватай вячэрняй смугою вёсачкі, якія тонуць у прысадах расцвітаючых садоў, неабсяжны, як мора, прастор палёў.

Ля самага ўзгорка, насыпанага народам у знак незгасальнай любві да вялікага польскага паэта, шуміць-гамоніць галасамі студэнтаў малады парк. У вячэрнія часы тут асабліва многалюдна. Пасля заняткаў, залікаў, экзаменаў у парк сыходзіцца шматлікае студэнцтва Новагрудка. У горадзе 6 тэхнікумаў і вучылішч, 3 сярэднія школы. Будучыя настаўнікі, работнікі савецкага гандлю, спецыялісты сельскай гаспадаркі, медыкі, фінансавыя работнікі — усе яны маюць свае любімыя куткі ў гэтым прыгожым парку.

Недзе зайграў акардэон, нехта зацягнуў песню, і вось ужо яе падхапіла многа маладых галасоў, і яна, як на крыллях, лунае над паркам.

Калі стаіш у вячэрні час ля ўзгорка Міцкевіча, глядзіш на панурыя абломкі былога замка; на высокі земляны вал, якім аддзяляецца Замкавая гара ад маладога гаманлівага парку, мімволі ўзнікае думка аб той пропасці, якая існуе паміж жыццём мінулым, даўно адышоўшым у нябыт, і жыццём, светлым, сённяшнім.

Новагрудак... Ля яго крапасных сцен не раз сыходзіліся пакручастыя сцежкі гісторыі. Вотчына кіеўскіх князёў, гэты горад пазней становіцца рэзідэнцыяй літоўскага князя Міндоўга. Пад сцены Новагрудка падводзілі свае тараны татарскія полчышчы Койданы. На гэты з выгляду ціхі гарадок рабілі свае набегі закаваныя ў жалеза немецкія рыцары. Новагрудак некалі бачыў на сваіх вуліцах урачысты марш напалеонаўскіх войск, а крыху пазней—ганебныя ўцёкі мізэрных рэшткаў французскай арміі. У новагрудскім замку наладжвала балы і піры пышная і тупагаловая шляхта.

Але не развалінамі крапасных сцен, не адзнакамі княжэння розных князёў і шляхціча ў, не бітвамі і баталіямі пад яго сценамі слаўны горад Новагрудак. Гэты невялікі з выгляду гарадок вядомы ўсяму свету тым, што тут нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Некалі на гэтым самым крапасным вале любіў стаяць юны Міцкевіч, любіў глядзець адсюль на родныя сэрцу краявіды. Радзіма паэта тады не мела волі, прыгнёт царызма цяжкім ярмом лажыўся на плечы ўсіх народаў. Выношваючы ў сэрцы мару аб свабодзе радзімы, аб будучай еднасці славянскіх народаў, Міцкевіч пісаў у «Адозве да рускіх»: «... Народы ніяк не зацікаўлены ў тым, каб знішчаць адзін другога. Дзень гібелі дэспатаў будзе першым днём міру і дружбы народаў».

На Новагрудчыне шмат мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча. Паэт нарадзіўся на хутары Заоссе, непадалёку ад сяла Колдычава, 24 снежня 1798 года. Праз тры гады бацькі паэта набылі дом у самім Новагрудку і пераехалі сюды на сталае жыхарства. Тут, у гэтым зялёным, утульным гарадку, прайшлі школьныя гады паэта, сюды прыязджаў ён на канікулы, будучы студэнтам Віленскага універсітэта. Малады паэт любіў вандраваць па родных мясцінах, любіў слухаць народныя паданні, легенды. Шматлікія творы паэта і напісаны паводле гэтых паданняў і легенд. Вусная народная творчасць з'явілася невычэрпнай крыніцай, адкуль паэт браў многія вобразы і матывы сваіх твораў.

Тут, у Новагрудку, Адам Міцкевіч напісаў свой першы верш «Ода аб пажары», затым «Оду пра Міндоўга».

Непадалёку ад Новагрудка, каля вёскі Валеўка, атуленае шчыльнаю градою лесу, плешчацца ў зялёных берагах возера Свіцязь. Сюды, у гэты маляўнічы куток Беларусі, штогод з'язджаюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці на Свята песні. Над люстранаю гладдзю возера, над прасторамі роднай зямлі шырока і гулка разносіцца вольная песня. Цудоўную прыгажосць Свіцязі некалі апеў і Адам Міцкевіч у сваіх непаўторных баладах «Свіцязь» і «Свіцязянка».

Студэнт БДУ імя В. І. Леніна Л. Мірачыцкі гутарыць з вучнямі шчорсаўскай школы ля дуба Адама Міцкевіча.



Развалiны Новагрудскага замка.





На рачулцы Сервеч калгас імя Варашылава пабудаваў гідраэлектрастанцыю.

На ўскрайку вёскі Шчорсы Любчанскага раёна расце магутны, у тры абхваты, дуб. Пад яго разгалістымі шатамі некалі любіў сядзець Адам Міцкевіч пасля працы ў бібліятэцы графа Хрэптовіча. Пад гэтым дубам, як сцвярджаюць знаўцы, паэт стварыў накіды сваёй цудоўнай паэмы «Гражына», дзе ўвасоблена ідэя еднасці народа ў барацьбе супраць нашэсця тэўтонскіх заваёўнікаў.

Мясцовыя жыхары клапатліва ахоўваюць дуб, звязаны з памяццю аб вялікім паэце. Дрэва абнесена двайной агарожай: жалезную зрабілі рабочыя мясцовага соўгаса, а знешнюю — калгаснікі. Пад дуб часта прыходзяць піонеры і школьнікі Шчорсаўскай школы. Гэта яны разбілі пад дубам клумбы, пасадзілі на іх кветкі, штодзень іх даглядаюць. Маленькі Віця Янушка, які пойдзе ў школу толькі гэтай восенню, з гордасцю паведаміў нам, што яго бацька, каваль Павел Янушка, акаваў дуб жалезам, каб яму не страшны былі навальніцы і перуны.

Не пазнаць сёння мясцін, звязаных з памяццю вялікага паэта. За гады савецкай улады яны непазнавальна змяніліся. Калі едзеш па дарогах Любчанскага, Карэліцкага раёнаў, вока радуецца высокай збажыне, цудоўным палям канюшыны, ільну. Хто не ведае, што многія любчанскія, карэліцкія, навагрудскія калгасы даўно сталі мільянерамі, забяспечылі высокія грамадскія і асабістыя прыбыткі. Узяць хоць-бы шчорсаўскі калгас імя Варашылава. Летась на працадзень тут выдадзена па 2 кілограмы збожжа і столькі-ж бульбы, па 7 рублёў грошай. На рачулцы Сервеч, па берагах якой, як расказваюць мясцовыя жыхары, любіў вандраваць Адам Міцкевіч, пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю ў 75 кіловат. Ціхая і непрыкметная з выгляду рачулка робіць для калгаса надзвычай карысную справу. Дзякуючы ёй, у хатах усіх навакольных вёсак запаліліся электрычныя агні, загаварыла радыё. 12 электраматораў працуюць у калгасе: пры дапамозе электрычнай энергіі тут пілуюць лес, малоцяць, нарыхтоўваюць кармы.

У некалькіх кіламетрах ад Навагрудка размешчана азярцо Літвінка, на якое любіў хадзіць Адам Міцкевіч. Азярцо маленькае, даўно-б яно зацягнулася цінай, зарасло хмызняком, каб не клопаты мясцовых жыхароў, якія яго любоўна ачышчаюць ад ілу, ад зараснікаў.

Савецкія людзі памятаюць, любяць, свята ахоўваюць усё звязанае з імем выдатнага польскага паэта. У Навагрудку створана камісія па правядзенню юбілея Адама Міцкевіча, у склад якой увайшлі самыя паважаныя людзі горада. Нават у суровыя для нашай Радзімы дні народ не забываў зберагчы дарагія рэліквіі. Не так даўно ў цэнтральным дзяржаўным архіве БССР знойдзен загад Навагрудскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта № 40 ад 16 верасня 1920 года. Гэтым загадам прадугледжвалася стварыць у доме паэта літаратурны музей або народную бібліятэку імя А. Міцкевіча.

Цяпер пра самы домік Адама Міцкевіча. У гады ваенных завірух ён гарэў, разбураўся, але, нібы фенікс з попелу, зноў паяўляўся на тым-жа месцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны домік быў разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Ён адноўлен цяпер у тым выглядзе, якім ён быў пры жыцці паэта. У гэтым дарагім для памяці доміку аднаўляецца літаратурны музей Адама Міцкевіча.

У абсталяванні музея прымаюць удзел не толькі жыхары Навагрудчыны, але і многіх іншых месц савецкай краіны. Знойдзена многа барэльефаў, скульптур, ілюстрацый, кніг Адама Міцкевіча. Толькі Навагрудская руская школа № 2 перадала музею звыш 50 экспанатаў — рэпрадукцый, барэльефаў, гарэльефаў, партрэт паэта работы мясцовага мастака Мардасевіча 1857 года.

У адрас музея прыходзяць пасылкі з Масквы, Мінска, Кіева. Маскоўскі жыхар Ляўковіч прыслаў ноты кампазітара Кюі на словы А. Міцкевіча, якія цяпер развучваюцца мясцовымі самадзейнымі калектывамі. З Мінска прыслалі рэдкі партрэт А. Міцкевіча 1895 года работы італьянскага мастака Пальміры. Кіеўскі скульптар Ульянаў зрабіў для музея бронзавы бюст паэта.

Цікавыя экспанаты перададзены музею Польскай Народнай Рэспублікай.

Памяць аб вялікім польскім паэце жывая і незгасальная. На Навагрудчыне мы сустрэлі студэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна Лявона Мірачыцкага. Са старым партфельчыкам ён хадзіў ад вёскі да вёскі, збіраючы, запісваючы ўспаміны мясцовых жыхароў, звязаныя з мясцінамі А. Міцкевіча.

Трэба было бачыць, з якой любоўю аформілі вучні 2-й рускай школы выстаўку, прысвечаную памяці А. Міцкевіча. Яны намалявалі некалькі партрэтаў вялікага паэта, ілюстрацыі да яго твораў, сабралі шмат рэдкіх, унікальных кніг А. Міцкевіча.

У Навагрудскім педвучылішчы група пачынаючых паэтаў выдае свой рукапісны альманах «Першы промень». Для чарговага нумару альманаха падрыхтавана шмат перакладаў на беларускую мову твораў А. Міцкевіча. Магчыма, гэтыя пераклады пакуль яшчэ нельга друкаваць у сталічным часопісе, але сама праца пачынаючых паэтаў гаворыць, наколькі дарагой для іх з'яўляецца паэтычная спадчына вялікага мастака слова.



Вучні 2-й рускай школы гор. Навагрудка Мікалай Голубеў, Анатолі Глухман, бібліятэкар Елена Паўлаўна Урбан і Анатолі Гарбулінскі афармляюць выстаўку, прысвечаную памяці А. Міцкевіча.

Фота А. Дзітлава.



## Дэбютанты

**У сёлетнім тэатральным сезоне гледачы горада Віцебска пазнаёміліся з двума маладымі акцёрамі — Ліляй Куцькінай і Аляксеем Шчыпанкіным. Абодва яны выступілі ў спектаклі па п'есе В. Розава «У добры час». Ліля Куцькіна выконвала ролю Каці Сарокінай, Аляксей Шчыпанкін — Афанасія Кабанава. Абодва дэбютанты няпрэнна справіліся са сваімі ролямі. Ліля Куцькіна стварыла прывабны вобраз простай, крыху наіўнай дзяўчыны з далёкага сібірскага горада. Закончыўшы дзесяцігодку, Каця Сарокіна прыязджае ў Маскву здаваць экзамены ў інстытут. Тут яна сустракаецца з людзьмі, якія па-рознаму глядзяць на жыццё. Шчырае абурэнне выклікаюць у яе тыя, хто спрабуе ісці ў жыццё несумленнымі дарогамі. І Каця, не баючыся, выказвае сваё абурэнне імі.**

**Цікавы вобраз стварыў Аляксей Шчыпанкін. У яго выкананні выпускнік школы Афанасій Кабанаў — горды юнак, які не баіцца ніякіх перашкод. Ён разам з Кацяй прыязджае ў Маскву. Афанасію няма дзе спыніцца на кватэры. Але ён не хоча замінаць сваім сябрам, якія самі ледзь прыстроены. Ён начуе ў парках, на вакзале і ўсё-ж вытрымлівае экзамен у інстытут. А. Шчыпанкін здолеў пранікнуць ва ўнутраны свет героя. Яго Афанасій падкупляе сваёй непасрэднасцю, шчырасцю пачуцця, настойлівасцю пры дасягненні мэты.**

**Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа амаль у кожным сезоне папаўняецца за лік маладых акцёраў. Тут любяць і ўмеюць працаваць з маладымі, выхоўваючы з іх добрых акцёраў.**

**Адкуль-жа чэрпае Віцебскі тэатр кадры акцёраў? Многія яго акцёры — выпускнікі тэатральных устаноў. Гэта адна крыніца. Ёсць і другая — мастацкая самадзейнасць.**

**Л. Куцькіна амаль з першага класа выступала ў вучнёўскіх гуртках мастацкай самадзейнасці. У апошнія гады яна ўдзельнічала амаль у кожным спектаклі драматычнага калектыву абласнога палаца піонераў. Адсюль і прышла яна на сцэну тэатра імя Якуба Коласа. Ліві Куцькінай усяго семнаццаць год. Наперадзе ў яе шырокая дарога. Патрэбна толькі настойлівасць, воля, прага да ведаў, гэта значыць — усё тое, што было ў яе гераіні Каці, ролю якой яна выконвае.**

**З самадзейнасці прышоў у тэатр і Аляксей Шчыпанкін. Ён ужо сыграў некалькі невялікіх роляў. Адны з іх удаліся лепш, другія горш. Але гарачае імкненне стаць сапраўдным майстрам сцэны дапаможа яму пераадолець усе цяжкасці на шляху.**

**А. ПУШКАРСКІ.**



Пятрусь Броўка.
Фото А. Дзітлава.

# Пясняр гераічнай маладосці

## Да 50-годдзя Петруся Броўкі

Грамадскасць Беларусі шырока адзначыла 50-годдзе з дня нараджэння выдатнага паэта рэспублікі, вядомага грамадскага дзеяча, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР Пятра Усцінавіча Броўкі.

Творчасць Петруся Броўкі добра вядома многамільённаму чытачу Савецкага Саюза. Пачаўшы сваю літаратурную дзейнасць амаль трыццаць год назад, паэт адразу звярнуў на сябе ўвагу актуальнасцю тэматыкі твораў, іх баявым, публіцыстычным характарам. П. Броўка вучыўся ў Вл. Маякоўскага наступальнасці паэзіі, высокаму мастацкаму майстэрству. Першыя яго зборнікі «Гады, як шторм», «Прамова фактамі», «Цэхавыя будні» былі прасякнуты глыбокай партыйнасцю, гарачай ваяўнічасцю. Паэт шчыра і ўсхваляявана славіў усе тыя з'явы, якія нараджала новае жыццё, бязлітасна выкрываў буржуазных нацыяналістаў і іншых шкоднікаў, якія стаялі на шляху будаўніцтва сацыялізма.

Тэма патрыятызма савецкіх людзей, іх бязмежнай адданасці сваёй Радзіме стала асноўнай тэмай творчасці П. Броўкі. Глыбокае раскрыццё яна знайшла ў зборніках вершаў «Прыход героя», «Вясна Радзімы» і ў паэме «Кацярына». Асноўнымі героямі твораў паэта сталі простыя савецкія людзі з іх працоўным пафасам, з глыбокім душэўным светам, з прыгожымі марамі і спадзяваннямі. Былая парабчанка Кацярына з аднайменнай паэмы ўвасабляе лёс усяго нашага народа, які толькі дзякуючы савецкай уладзе выйшаў на шырокую дарогу вольнага і шчаслівага жыцця.

Не змаўкала баявое слова П. Броўкі і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Паэт-патрыёт разумеў свой вялікі абавязак перад народам, перад сваім родным краем, акупаваным ворагам, і ўсе свае сілы аддаваў вызваленню савецкай зямлі ад фашысцкіх захопнікаў. У шматлікіх палымяных вершах ён клікаў беларускіх партызан да бязлітаснай помсты ворагу, натхняў іх на баявыя подзвігі. Каму не вядомы такія агністыя вершы П. Броўкі, як «Кастусь Каліноўскі», «Будзем сеяць, беларусы», «Мінск» і іншыя, якія ўзнімалі беларускіх партызан на ратныя справы. З асаблівай любоўю паэт услаўляе подзвігі маладых воінаў Савецкай Арміі. Ён піша паэму аб неўміручым подзвігу магілёўскага камсамольца Фядоса Смалячкова, у якой раскрывае вялікія пачуцці любві савецкай моладзі да сваёй цудоўнай маці-Радзімы.

Вельмі плённа працуе паэт у пасляваенны час. Ім напісаны паэмы «Ясны кут», «Хлеб», «Думы пра Маскву», «Родныя берагі», «Добры друг», «Чырвон-гарадок», а таксама многа вершаў. У гэтых творах П. Броўка з вялікай паэтычнасцю малюе адраджэнне жыцця на вызваленай зямлі. Савецкія людзі падаюцца паэтам, як сапраўдныя волаты, якія вынеслі ўвесь цяжар вайны і цяпер з новай энергіяй адбудоўваюць гаспадарку краіны. Гэта людзі з высокароднай душой, з напорыстасцю і заўзятасцю ў працы. Маладыя героі паэмы «Хлеб» з вялікай радасцю засяваюць і вырошчваюць збажыну на шырокіх калгасных палетках. З задушэўнасцю і шчырасцю паэт малюе вобразы сейбіта і маладой калгасніцы, якія ў руплівай працы знаходзяць шчасце мірнага жыцця.

За паэму «Хлеб» П. Броўка першы раз удастоены Сталінскай прэміі. У другі раз Сталінскую прэмію паэт атрымаў за зборнік вершаў «Дарога жыцця».

П. Броўка з'яўляецца аўтарам лібрэта першых беларускіх опер «Міхась Падгорны» і «Дзяўчына з Палесся».

Паэтычнае майстэрства П. Броўкі расце з кожным годам. Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла зборнік новых вершаў паэта «Цвёрдымі крокамі». Новая яго кніга сведчыць аб няспынным удасканаленні паэтам мастацкіх якасцей сваіх твораў, аб пашырэнні іх тэматыкі. Ён знаходзіць перакanальныя словы, каб паказаць поспехі краін народнай дэмакратыі, каб уславіць дружбу савецкага і кітайскага народаў, каб выказаць свой гнеў супраць падпальшчыкаў новай вайны.

Маладым паэтам нашай рэспублікі трэба вучыцца ў П. Броўкі адчуванню пульса жыцця, актыўнаму ўтаржэнню ў жыццё, разуменню запатрабаванняў савецкага чытача.

Паэт-камуніст Пятрусь Броўка жыве пачуццямі і думамі савецкага народа. Інтарэсы роднай Камуністычнай партыі, інтарэсы сваёй вялікай Радзімы для яго вышэй за ўсё.

Пажадаем-жа яму новых творчых поспехаў!

**Г. ШЧАРБАТАЎ.**

# Умелыя рукі



Экскурсанты і наведвальнікі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі з цікавасцю спыняюцца каля стэндаў і экспанатаў Чавускага дзіцячага дома, які сёлета шырокім паказам дэманструе свае поспехі і дасягненні. Увагу кожнага прыцягваюць мастацкія вышыўкі, пано, шкатулкі, статуэткі, зробленыя выхаванцамі дзіцячага дома.

Арыгінальнасцю, майстэрствам выканання вылучаецца ваза «Багацце». На прыгожай драўлянай падстаўцы ўзвышаецца велічная, акаймаваная каласамі чаша; на яе баках выпілаваны плады і расліны, што вырошчваюцца дзетдомаўцамі, — вінаград, яблыкі, ігрушы, гуркі, памідоры, лён, бульба, кукуруза, чуміза. Вазу ўпрыгожваюць сіметрычна расстаўленыя ўнізе фігуркі юных мічурынцаў з пладамі і жывёлай.

Арыгінальная задума ярка ўвасобіла багацце, створанае ў дружнай калектыўнай працы.

Гэтую вазу зрабілі юныя рэзчыкі на чале з інструктарам па працы Грыгорыем Фёдаравічам Самойлавым. Майстар разьбы і лепкі, Самойлаў нястомна прывівае дзецям мастацкі густ, выхоўвае ў іх прагу да творчасці.

Многія выхаванцы ў гуртку навучыліся майстэрству выпільвання, разьбы па дрэву, лепкі. Найбольш здольныя рабяты, вышаўшы з дзіцячага дома, вучацца ў мастацкіх вучылішчах і інстытутах.

Работы юных рэзчыкаў паказваліся на рэспубліканскіх выстаўках, на выстаўцы ў часе дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве.

Цяпер у гуртку займаецца дванаццаць найбольш таленавітых выхаванцаў. Пеця Варанцоў, Валодзя Раманаў, Стась Стабірка — заўзятыя аматары мастацкай разьбы і выпільвання. У іх умелых руках кавалак звычайнага дрэва ажывае, набывае прыгожую форму.

На здымку: адзін з лепшых юных рэзчыкаў Уладзімір Раманаў, удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1955 года, за работай.

Мал. Г. Паплаўскага

С. ЖУРАХОВІЧ



# Кіеўскія эцюды

## І зноў цвітуць каштаны

Бывае так: сустрэнеш на вуліцы чалавека і пачынаеш наспех, напружваючы памяць, успамінаць, дзе ты яго бачыў, хто гэта?

І можа таму, што ты так раптоўна прымушаеш памяць, яна разгублена кідаецца ва ўсе бакі, недарэчы падказвае дзесяткі імён, сустрэч і знаёмстваў. Нарэшце, заблытваешся канчаткова і безнадзейна махаеш рукой. А каб супакоіць сябе, вымаўляеш звычайныя ў такім выпадку словы: напэўна, гэта мне толькі здалося.

Але на гэты раз я не вымавіў тых суцяшальных слоў. Не, гэта мне не здалося. Бясспрэчна, гэтую жанчыну я недзе бачыў.

Яна была сярэдняга росту, статная і з выгляду ёй можна было даць не больш трыццаці год. Строгі сіні касцюм і высокі капялюшык таго-ж самага колеру прыгожа адцянёўвалі яе акруглае аблічча. Спакойна і трохі задумённа глядзелі вялікія цёмныя вочы, над якімі распасцерліся крылатыя бровы, што амаль сыходзіліся на пераноссі.

Вось якраз тыя паглыбленыя ў нейкую думу вочы... Не, я не памыліўся!

Сёй-той у падобных выпадках падыходзіць і пытаецца: дзе мы з вамі бачыліся? Нельга сказаць, каб гэта было вельмі ветліва. Калі ты сам не запомніў чалавека, дык якое маеш права вымагаць, каб ён памятаў цябе?..

Маладая жанчына вельмі павольна падымалася ўгару па вуліцы, ведучы за руку хлопчыка гадоў чатырох ці пяці. А я ішоў насустрач, як мага запавольваючы хаду. Мне быў дарагі кожны момант, — можа памяць усё-такі нешта падкажа? Дарма. Мы размінуліся і пайшлі ў супроцьлеглыя бакі.

Але праз гадзіну ці дзве, калі я вяртаўся назад па вуліцы Леніна і зноў сустрэў тую жанчыну з хлопчыкам, здагадка прышла сама па сабе, наўздзіў лёгка і вольна. Можа гэта сталася таму, што праз увесь час вобраз яе стаяў перад маімі вачыма, і патрэбны быў толькі яшчэ адзін лёгенькі штуршок, каб усё прыпомнілася.

Іншы раз я, магчыма, пачаў-бы правяраць сябе, а тут нават і на момант не прышло якое-небудзь сумненне. Так, гэта яна, тая дзяўчына-разведчыца, якую я бачыў за Паўночным Данцом вясною сорак трэцяга года, калі яна прышла з акупіраванага Кіева. Цяпер ужо нават не знешняе падабенства, а нейкае беспамылковае перакананне гаварыла мне, што гэта яна. І з яскравай яснасцю ўспомніўся майскі ранак, бераг Данца, агіднае выццё снарадаў, што пераляталі цераз наш бліндаж, і стомленае аблічча разведчыцы, якая расказвала нам пра Кіеў.

Вядома, ні сапраўднага, ні ўмоўнага імя яе я не ведаў. Але якое гэта мае значэнне?

Адчуваючы сябе ўсё-ж трохі няёмка, я падыйшоў і напомніў ёй пра Данец, пра гутарку ў бліндажы. І калі раптам засвяціліся яе цёмнакарыя вочы, цёплая далонь радасці мякка кранулася маіх грудзей.



— Так, памятаю, — ціха сказала яна. — Гэта было пасля найцяжэйшай дарогі. За ўсю вайну такога не было.

Мы стаялі адзін супраць аднаго, знаёмыя і незнаёмыя, усхваляваныя і трохі разгубленыя. Дзесяць гадоў працякло, нібы шырокая рака, — каб навесці мост праз гэтую раку, трэба было вельмі многае ўспамінаць. А можа, найлепш у такую хвіліну проста памаўчаць. І мы маўчалі.

Стрыманая і крыху сарамлівая ўсмешка свяцілася на яе твары. Поўныя вусны былі ледзь-ледзь растулены і адкрылі белыя пацеркі зубоў. А вочы, паглыбленыя ў нейкую думу, вочы ўспаміналі і ўспаміналі ўсё, што было за той шырокаю ракой. Колькі дарог яна прайшла!

Хлопчык, які спачатку з вялікай цікавасцю разглядаў незнаёмага дзядзьку, раптам засумаваў і пачаў цягнуць жанчыну за руку.

— Мама, хадзем...

— Зараз, сыночак, зараз, — сказала яна.

І тады, каб парушыць ужо занадта доўгае маўчанне, каб сказаць што-небудзь, я спытаўся:

— Ну, як маецеся, што новенькага?

У мяне раптам перасохла горла, — так стала прыкра і сорамна. І як у мяне вырваліся гэтыя пустыя, сцёртыя словы? Можа і трэба было спытацца, але па-іншаму, зусім па-іншаму. То-ж мы бачыліся ўсяго адзін толькі раз і ў такіх незвычайных абставінах. Ды і калі гэта было? Дзесяць гадоў — шырокая рака...

Яна трымала за руку маленькага хлопчыка, — у яе сын, сям'я, праца, усё тое, што людзі называюць поўным жыццём.

— Што новенькага? — перапытала маладая жанчына. — Многа вядома, вельмі многа. — І дадала з мяккай усмешкай: — Вось учора зацвілі каштаны. Усе разам...

І ў вачах яе прамільгнуў далёкі ўспамін.

Узняўшы беларужовыя стрэлкі — тысячы на кожным дрэве — каштаны выстраіліся каля тратуараў і пабеглі ўніз, да Крашчаціка, двума квяцістымі алеямі-ручайкамі.

А вышэй, па Уладзімірскай, ручайкі беглі да Дняпра, да Сталінкі. А далей яшчэ і яшчэ — расцякаліся вуліцамі, завулкамі.

І на кожным дрэве крыштальныя гронкі аблямаваныя зялёным лісцем, пяшчотным, маладым лісцем, якое толькі тры дні таму назад вышла з пупышак.

Хоць-бы вы і шмат разоў у жыцці бачылі, як расцвітаюць кіеўскія каштаны, да гэтага прызвычаіцца нельга. Штогод гэта нібы дзіва.

Каля нас праходзілі людзі. Угару і ўніз імчалі аўтамашыны. Дзеці скакалі на размаляваных крэйдаю «класах» і гулліва ганяліся за імі сонечныя зайчыкі.

Маладая жанчына моцна пацiснула маю руку. Мы глянулі адзін аднаму ў вочы, пасяброўску ўсміхнуліся і разыйшліся.

...Прыкладна, у другой палавіне мая ў Кіеве цвітуць каштаны.

## Надпіс на муры

Сярод кіеўскіх папялішчаў і руін, якія ўбачыў лейтэнант Галубнічы ўлетку сорак пятага года, пасля бітвы за Берлін і перад бітваю за Харбін і Мукдэн, ён з цяжкасцю знайшоў знаёмы дом, дом свайго маленства.

Уласна кажучы, ад таго дома мала што засталося. Зняўшы пілотку, нібы перад магілай сябра, Галубнічы павольнымі крокамі наблізіўся да расколатых сцен, зазірнуў праз разбітае акно ў сярэдзіну, пасля агледзеў руіны з усіх бакоў...

Ён горка ўсміхнуўся: тысячы тысяч руінаў бачыў на сваім шляху, няўжо і дагэтуль не прывык... І раптам застыў на месцы, прыкіпеў вачыма, убачыўшы сярод хаосу руінаў нешта трапятліва-жывое.

Галубнічы доўга стаяў перад пашчэрбленым, паколатым каменнем і па расколінах, па шрамах на ім, нібы па старадаўніх іерогліфах, чытаў расказ пра тое, як забівалі дом яго маленства.

Забівалі кулямі. На сценах і дагэтуль захаваліся сляды кулямётных чэргаў, якія — бездапаможна — дзяўбалі цэглу.

Забівалі снарадамі. Ад іх у сценах засталіся круглыя навылётныя раны з ірванымі краямі, што пакрыліся іржою ці закарэлай крывёй.

Але, відаць, і пасля гэтага будынак застаўся стаяць, няскораны, суровы і крычаў у твар ворагам адважным надпісам на белым муры.

На дом скінулі бомбу з самалёта — ворагі наважыліся любою цаною забіць яго. Бомба трапіла ў сярэдзіну дома і, аглушаны страшным ударам, ён выхаркнуў з усіх сваіх дзвярэй і вокан крывавую пену друзу, пораху, клочча.

Але патрэсканыя сцены стаялі, як і раней, непарушна і з незвычайнай упартасцю глядзелі ў вочы ворага калючымі літарамі несмяротнага надпісу.

Тады з агідным выццём вылецелі з-за вугла міны, і скалечаны дом ахутаўся полымем. Чарнела цэгла. Атынкоўка, вылізаная пякучымі языкамі агню, рабілася з белай рыжаю. Бляха на даху скручвалася распечана-чырвонымі кольцамі, зрывалася ўніз і, з ветрам, гойсала па плошчы з пранізлівым скрыгатаннем.

З грукатам упала сталяванне, рухнулі перакрыцці. Бязладнымі кучамі ляжалі яны ў сярэдзіне дома.

А ўсё-ж муры выстаялі і з дакорам глядзелі на свет цёмнымі праймамі разбітых вокан. А на парыжэлай атынкоўцы, нібы запечаная кроў, цямнеў той самы надпіс: «Смерць фашызму! Наша справа пераможа!»

І гэта было нібы крык са сцятых вуснаў, нібы апошняе слова людзей, якія загінулі пад руінамі, пакінуўшы на муры вечны знак непераможнага вечна жывога жыцця!

...Тым часам падышлі людзі з кіркамі, з ламамі і пачалі разбіраць руіны.



Яму здавалася — усё гэта было толькі ўчора. Але прамінулі гады і зноў ён на тым самым месцы. Толькі даўно ўжо Галубнічы не лейтэнант. Нават і сівізна з'явілася на скронях. Нехта бачыў яго на вялікай будоўлі, нехта сустракаў у далёкім плаванні. Шмат чаго выпала на долю яго пакалення, якое ў юнацкім запале кінулася ў бой на світанні чэрвеньскага дня.

Зняўшы капялюш і закінуўшы высока галаву, ён глядзеў на новы дом, які стаяў на месцы руінаў, пільна, нібы хацеў разглядзець, пазнаць нешта даўняе, бачанае, пражытае. Шматфарбныя дываны звісалі з балконаў, угору ўспінаўся зялёны вінаград. У адчыненых вокнах трымцелі вымержаныя фіранкі, а там, за імі, чуліся галасы і смех, быў зацішак, утульнасць, было чыёсьці маленства.

Ён перайшоў вуліцу і сеў на каменную лаўку каля помніка Леніну.

Маладыя таполі беглі з гары, шумелі галлём. Дзеці гулялі пад урачыстым мармурам — прыладжвалі сцяжкі на самадзельных паравозах і майстравалі з паперы караблікі, якім тут не было дзе плаваць.

— Калі збудавалі гэты дом? — спытаўся Галубнічы ў кіеўляніна, які — па ўсім было відаць — закончыў першы, а можа нават другі клас.

Хлопчык зірнуў на яго здзіўлена і адказаў:

— Гэты дом? Ён быў заўсёды. — І каб канчаткова пацвердзіць свае словы, дадаў: — Я ведаю, я там жыву...

Галубнічы адразу здзівіўся, пасля ўсміхнуўся.

— А помнік Леніну калі паставілі? — зноў спытаўся ён.

— І Ленін тут быў заўсёды, — сказаў хлопчык і заняўся сваімі справамі.

Галубнічы хацеў расказаць хлопчыку страшную быль нядаўніх гадоў, а потым падумаў — навошта? Гэты дом з кветкамі на балконах, з вясёлымі вокнамі пад сонца стаяў тут заўсёды. І Ленін — увесь у імклівым парыве — таксама быў тут заўсёды. Пра гэта вось самае і крычаў у твар ворагам неўміручы надпіс на руінах.

## Гафійчына песня

Мы сядзелі на прызбе. І можа таму на мяне павеяла нечым далёкім, амаль забытым... Нізенькая прызба пад цёплай сцяною. Вячэрняя цішыня. І голас мацеры, якая, адпачываючы пасля дзённых клопатаў, расказвае дзіўную казку ці быль — не менш дзіўную.

Падпаліўшы хмары над сабою, за рэчкаю садзілася чырвонае сонца. Праз голле яблынь яно развітальна аглядала хату, цікавала ў адчыненыя дзверы. На сценах перасоўваліся вогненыя плямы. Палалі вокны, якія з заходняга боку.

Я дыхаў цішынёй і слухаў.

Слухаў лагодную гаворку жанчыны, што сядзела побач са мною. Слухаў шчабятанне птушак, якія развіталіся на кароткую летнюю ноч, і бясконцае цвырканне коніка, які, відаць, наўмысна, засеў у падаконніку, каб яго чуваць было і на дварэ.

Гаварылі пра living рознае — з таго рознага складаецца жыццё. Пра дачку гаспадыні. Пра гаспадарку, ураджай... Калі мясцовыя тэмы былі вычарпаны, жанчына спыталася:

— Гаварылі, што вы з Кіева. Праўда?

— З Кіева, — пацвердзіў я.

Трохі скуластае аблічча жанчыны засвяцілася радасным успамінам.

Яна была немаладая. Сонца без літасці выкрывала кожную маршчынку каля веяк і навокал рота, серабрыла сівыя пасмы на галаве. Толькі вочы — карыя і ў той-жа час цёмназялёныя—былі напоўненыя незгасальным пачуццём.

— Бачылі Кіеў, бывалі? — спытаўся я.

— Зроду не была, — адказала жанчына і ўздыхнула. — Не давялося...

— Дык, відаць, у вас там сваякі або знаёмыя, — дапытваўся я: мяне цікавіла, чаму так усцешылася жанчына, пачуўшы пра Кіеў.

— Нікога няма, — паківала яна галавой і, глянуўшы на мяне шчаслівымі вачыма, з усмешкай дадала: — Гафійка мая ездзіла... Песню ў Кіеў вазіла...



Я ўжо ведаў, што Гафійка — гэта дачка, што яна закончыла сямігодку і ўжо вось пяты год цялятніцай на ферме. Партрэт у часопісе друкавалі — можа бачылі? Абдымае Гафійка цялятка за шыю і смяецца. Так і надрукавалі...

Я ўжо ведаў пра Гафійку нямала, а вось што яна песню ў Кіеў вазіла, пра гэта ніхто не гаварыў.

— А было гэта так, — пачала жанчына. У голасе яе чулася цёплая ўсмешка і любаванне— з такою інтанацыяю расказваюць казку. — Прыходзіць аднойчы Васіль Мікітавіч і кажа: «Хутка збірайся, Гафійка, паедзеш у Кіеў, справа ёсць». Гафійка толькі зірнула на яго: «Якая-ж справа? у мяне-ж цяляты...» «Цяляты, — кажа старшыня, — гэта Васіль Мікітавіч у нас старшыня, — цяляты само сабою. А гэта справа не абы што: паедзеш у Кіеў і праспяваеш песню. Як яна там называецца? «Вечар у стэпе»?.. «Вось і ўсяго? — засмяялася Гафійка. — Жартуеце, Васіль Мікітавіч. Кажыце, якая справа? Ці надоўга?» Васіль Мікітавіч сваё: «Справа нядоўгая — паедзеш, праспяваеш і дахаты». Гляджу я на нашага старшыню і думаю сабе: што гэта з ім? Сур'ёзны чалавек, а тут на жарты пацягнула. У нас тады якраз найлепшыя каровы цяліліся. Ім цаны няма, тым цялятам. А хто іх даглядае? Гафійка, вядома. Колькі працуе ўжо — ніводнае не прапала. Глядзіце, што ўся наша племянная ферма ёю змалку ўзгадавана і выпеставана. Вельмі-ж у мяне Гафійка такая... абавязковая. Ужо калі нешта ёй даручылі — не дасць сабе спакою.

Узяўся Васіль Мікітавіч за шапку. «Збірайся, — кажа, — уранні машыну прышлю». І да дзвярэй. А я за ім: «Куды-ж ехаць?» — пытаюся. «Вось табе маеш! Кажу, — у Кіеў». Тут я прасіць пачала: «Васіль Мікітавіч, мая Гафійка ніколі так далёка не ездзіла. Калі даручэнне нейкае ад калгаса, дык няхай-бы нехта старэйшы паехаў...» «А гэта, — кажа, — такое даручэнне, што ніхто, апроч яе, не выканае. Можа, скажаце, каб я заспяваў?»

Гафійка ледзь не плача: «З-за такой дробязі цялят пакідаць. Тысячу кіламетраў ехаць. Падумаеш, якая справа — песеньку праспяваць...» Васіль Мікітавіч ажно ўзлаваўся! «Каб ты ведала — тысячы людзей тваю песню там чакаюць. Разумееш?»

Так і палеглі спаць. Не ведаем, ці жартаваў, ці праўду гаварыў. Уранні пад'язджае машына. Да станцыі тут не вельмі далёка. Ідзем, а Гафійка адно: «Дык вы, мама, даглядзіце цялятак. Асабліва «Кветку». Яна чагосьці на ногі слабенькая. Крэйду ёй падмешвайце. Касцяное мукі... Не трэба было мне ў раён на спеўкі хадзіць, ніхто і не ведаў-бы. І як яно там будзе? Я са страху памру...»

Прыязджае яна ў Кіеў — гэта Гафійка потым ужо расказвала — падхапілі яе і вязуць у тэатр. Глянула яна і дыхнуць не можа. Тысячы людзей сабраліся. Чакаюць!

Выклікалі Гафійку. Так і аб'явілі: выступае цялятніца з калгаса «Прамень» Гафійка Дубавенка... Яна спявае, а я тут па радыё слухаю. Слухаю і плачу. А чаго плачу? Бачылі вы такое?

Праспявала яна. Чую — пляскаюць у далоні, крычаць, быццам мора зашумела. І шуміць, грукоча. А потым усё заціхла — зноў Гафійка спявае. Тую самую песню. «Вечар у стэпе»... Колькі ёсць песень у нашым краі, а гэтая ёй у сэрца запала.

Толькі два дні прабыла Гафійка ў Кіеве. Там многа прыехала з розных месцаў. Хто спевы, хто танцы, хто музыку прывёз. Магла-б і яшчэ пабыць, але, як малое, засумавала: дахаты! «Што мне ў калгасе сказалі, тое і зрабіла: прыехала, заспявала, цяпер дахаты». Ну, кажуць, і за гэта табе падзяка і грамата.

Вось прыдзе Гафійка, пакажа вам тую грамату. Я гаварыла: павесь, няхай усе бачаць. А яна ў скрыню схавала, саромеецца. Вы пачакайце, яна вось-вось прыдзе...

Сонца зайшло. Пагаслі вокны. Заціхлі птушкі. Толькі цвыркун сяды-тады нагадваў пра сябе.

Жанчына з добрымі маршчынамі на скуластым абліччы частавала мяне сырадоем і прыгаварвала: «Яна хуценька, вы пачакайце...»

І я чакаў. Я згодзен быў чакаць хоць да ранку, бо ведаў, што ніколі не дарую сабе, калі не пачую Гафійчыну песню, якую везла яна тысячу кіламетраў з-над сіняй рэчкі Айдар, з далёкага стэпавага калгаса «Прамень» у Кіеў, тую самую песню, якую чакалі тысячы людзей.

### Малады клянок

Па вуліцы Лысенка — гэта маленькая вуліца за оперным тэатрам — пабегла грузавая машына, на бартах якой белаю фарбай былі выпісаны належныя літары і лічбы. Яны былі пакрытыя сям-там плямамі высахшай гліны.

Крута павярнуўшы на рагу каля сквера, машына зачапіла маладое дрэўца. Яно прыгнулася, затрымцела кожным лісцікам і выпрасталася зноў. Толькі на тонкім ствале забялела рана. Абадраны кавалак кары павіс уніз.

Гэта быў клянок. Далонелісты клянок, які, магчыма, толькі пятае лета пусціў карэнне ў зямлю. Напэўна, яму было весела тут, сярод шумлівага горада, і ён як мага цягнуўся ўгару.

Маладая жанчына, што пераходзіла вуліцу, бачыла, як машына сагнула клянок.

— Ой, ой! — ускрыкнула яна і сударга прабегла па твары жанчыны, нібы яна фізічна адчула вострy боль.

Жанчына падыйшла да дрэўца, асцярожна дакранулася пальцам да тонкай зеленаватай кары, якая блішчэла ад свежага соку.

— Ездзяць, ездзяць, чэрці сляпыя, — пачулася ззаду.

Са сквера выходзіў стары чалавек у пацёртым макінтошы і ў чорным шырокаполым капелюшы. Ён зноў сярдзіта і галасна сказаў:

— Ездзяць, чэрці...

Падыйшоў вайсковы, зірнуў і дакорліва паківаў галавой:

— Нумар машыны трэба было заўважыць. Нумар...

Апынуўся тут — цікавы на здарэнні — школьнік з партфельчыкам. Ён трохі спалохана паглядаў то на дрэўца, то на пахмурыя твары дарослых і думаў: «Вось каб злавілі таго шафёра...»

— Ездзяць такія, — уголас, ні да каго не звяртаючыся, абураўся стары ў чорным капелюшы. — Няма таго, каб самому пасадзіць, — яшчэ і жывое дрэўца пакалечыць...

Вайсковы яшчэ раз паківаў галавою і пайшоў.

Падкінуў партфельчык угару і паскакаў адгэтуль школьнік.

Яшчэ некалькі прахожых на момант супыніліся каля дрэва і, выказаўшы кожны па-свойму, пачуцце жалю і гневу, ішлі далей. Толькі жанчына і стары чалавек усё яшчэ стаялі тут, аб нечым ціха гаворачы.

Трохі воддаль, крокаў за дваццаць ці, можа, больш, я заўважыў чалавека, які нервова пераступаў з нагі на нагу і ўсё паглядаў у той бок, нібы чакаючы, калі ўсе разыйдуцца. Ён двойчы выцер пот з ілба, а потым, відаць, сам не заўважаючы таго, камячыў ды камячыў у сціснутай руцэ хустачку.

Ды вось ён кіўнуў галавою, нібы намерыўся нешта зрабіць, хутка падыйшоў да дрэўца, прыгарнуў кавалачак надарванай кары да ствала, моцна забінтаваў хустачкай, потым выцягнуў з кішэні матузок і пачаў абвязваць параненае месца. Рукі ў яго былі моцныя, рухавыя, пэўна, прывычныя да ўсякай працы.

Але мяне ўразіла аблічча гэтага чалавека. Нахмуранае, пачырванелае, яно было нібы сярдзітае, нібы разгубленае. Нехта мог-бы падумаць, што чалавек гэты саромеецца справы, якою даваўся заняцца, і спяшаецца скончыць яе як найхутчэй.

— Ну, вось, хоць адзін здагадаўся, што трэба зрабіць, — задаволена сказаў стары ў чорным капелюшы. — Глядзіце, як спрытна! Зарасце, дальбог, зарасце!

І ён закаханымі вачыма глядзеў на маладога, моцнай будовы чалавека, які схіліўся каля дрэўца, завязваючы апошні вузялок.

— Сапраўды, спрытна, — усміхнулася жанчына, стараючыся зазірнуць у твар таго, хто так зацікаўлена лячыў дрэўца. Але ён не падняў галавы, толькі яшчэ больш пачырванеў.

— Ну, вось, расці на здароўечка, — сказаў стары, дакранаючыся рукою да бледназялёных далоністы лісткоў. — Расці, клянок, і дзякуй добраму чалавеку.

— Няма чаго дзякаваць, — раптам успыхнуў незнаёмы. — Гэта-ж я яго пакалечыў...

Толькі цяпер ён выпрастаўся і глянуў у вочы стараму і жанчыне.

Справу сваю ён ужо закончыў, але адыходзіць адразу пасля гэтых слоў яму, відаць, было няёмка. Пачапаўшы рукою павязку, пераступіў з нагі на нагу, а потым кіўнуў галавою і пайшоў.

— Да пабачэння, — сказаў стары і зняў свой чорны капялюш.

А жанчына лагодна ўсміхнулася і таксама кіўнула галавою, хоць незнаёмы не мог ужо гэтага бачыць.

Ён шпаркімі крокамі ішоў да наступнага павароту, дзе стаяла грузавая машына з плямамі высахшай гліны на бартах.

**З украінскай мовы пераклаў Янка Брыль.**



# У працы і

**Фотарэпартаж А. АСІПЕНКІ і А. ДЗІТЛАВА**

Ніна Мітрафаненка — адна з лепшых работніц Аршанскага ільнокамбіната.

Каці Мяркулавай, сакратара комсамольскай арганізацыі Аршанскага ільнокамбіната, у камітэце комсамола мы не засталі. «Недзе на камбінаце», — сказалі нам, але шукаць не раілі: «Усёроўна не знойдзеце, дарог у яе багата».

— А вы пазнаёмцеся з Люсяй Мазохінай. Яна — правая рука Мяркулавай, комсамольскія справы таксама добра ведае, — супакоілі нас.

Люся, высокая, стройная дзяўчына, з волжскаю гаворкаю на «о», адразу рабіла некалькі спраў: прымала комсамольскія ўзносы, напамінала пра лекцыю, якая мелася пачацца пасля дзённай змены, пыталася ў комсамольцаў, якія раз-по-раз заходзілі ў чырвоны куток, пра іх поспехі за дзень і адначасова расказвала нам пра работу комсамольскай арганізацыі ткацкай фабрыкі, сакратаром камітэта комсамола якой яна працуе. Усё, што ні рабіла Люся, выходзіла ў яе спрытна, прыгожа, і расказвала яна таксама з аганьком, шчыра. За нейкія дваццаць хвілін мы даведаліся шмат пра што: калектыў камбіната заваяваў пераходны чырвоны сцяг Совета Міністраў СССР, комсамолка Анна Лузгіна адной з першых у Совецкім Саюзе пачала абслугоўваць шэсць ткацкіх станкоў, у матальны цэх прысланы новыя машыны УМПА-1 — першы ўточнаматальны пачатачны аўтамат, фабрычныя спартсмены заканчваюць падрыхтоўку да спартакіяды. Адным словам, навін было столькі, што яскрава ўявілася багатае і бурнае жыццё моладзі ільнокамбіната. І ўсё-ж, калі праз нейкі час мы больш дэталёва пазнаёміліся з гэтым жыццём — убачанае і пачутае пераўзышло ўсе нашы ўяўленні.

Аршанскі ільнокамбінат — вялізнае, абсталяванае навейшай тэхнікай прадпрыемства. Усе працэсы ад пярвічнай апрацоўкі ільну да пагрузкі на аўтамашыны гатовай прадукцыі механізаваны. Але і гэта не самае галоўнае. Цудоўныя, працавітыя людзі — вось гордасць камбіната, вось яго слава.

У Оршы пасёлак ільнокамбіната называюць «дзявочым гарадком». Сама назва гаворыць, што працуюць тут пераважна дзяўчаты. І сапраўды, ёсць цэхі, пра якія гавораць, што ў іх мужчыну днём з агнём не знойдзеш.

У час перазменкі, калі адна змена ішла на работу, а другая выходзіла з варот камбіната, шырокі праспект гарадка, здавалася, цвіце ад рознакаляровых хусцінак. Гледзячы на гэтых маладых дзяўчат, неяк не верылася, што іменна яны заваявалі пераходны Чырвоны сцяг Совета Міністраў СССР. Люся Мазохіна ў адказ усміхнулася:

— Нашы дзяўчаты баявыя. Яны і ў працы, і ў спорце, і на адпачынку любяць першымі быць. Пойдземце, пазнаёмімся, — прапанавала яна.



Нарміроўшчык гаража Канстанцін Іваноў дае нарад на рамонт аўтамашыны шафёру Леаніду Зайцаву.

Дуся не толькі добра працуе, але і выдатна ездзіць на веласіпедзе. Яна — чэмпіёнка камбіната па гэтаму віду спорту.



Дусю Пруднікаву часта можна бачыць ў чытальні за кнігай.



Масква прыслала ў адрас камбіната віншавальныя тэлеграмы.



# У спорце



Увечары Канстанцін Іваноў разбіраў цікавую шахматную партыю.



І ў спорце Ніна Мітрафаненка першая. Яна далей за ўсіх кідае дыск, вышэй за ўсіх прыгае ў вышыню.

Як толькі адчыніліся дзверы, нас ахінуў глухі, але моцны гул машын: ляскаталі ткацкія станкі, гулі прадзільныя, дробна стракаталі швейныя машыны. Чым далей па калідору, тым болей гэты гул мацнеў, рос, запаўняючы ўвесь вялізны корпус фабрыкі.

Унізе ткацкі цэх — шчыльна застаўлены ткацкімі станкамі пакой. Ля станкоў спрытна завіхаюцца жанчыны. Многія з іх абслугоўваюць па 3—4 станкі.

Падобныя на драўляныя молаты прыстасаванні часта б'юць па чаўнаку, кідаючы яго то направа, то налева. Вялізнае бёрда шчыльна прыбівае ўток, і па валіках бесперапынна рухаецца і рухаецца палатняная дарожка.

У работніцы шмат клопатаў: трэба пільна сачыць за тым, каб не парвалася якая-небудзь з соцень нітак, што паўзуць па валу, каб не сапсавалася машына. Не дагледзіш, парвецца нітка, і ўтворыцца на палатне незатканая паласа-стрэлка.

Работа на чатырох станках доўгі час здавалася той мяжой, якую пераступіць вельмі цяжка. Толькі сёлетняй вясной Анна Лузгіна даказала памылковасць такой думкі.

...Першыя шэсць станкоў налева перад уваходам у цэх абслугоўвае Анна Лузгіна. Моцная, спрытная, яна лёгка, нібы на прагулцы, ходзіць па насцілу, час-ад-часу спыняецца ля машыны, хутка ліквідуе абрыў, і ідзе далей ад станка да станка. Знешне работа быццам-бы і не цяжкая, але паспрабуйце бесперапынна восем гадзін не проста пастаяць на нагах, а хадзіць, уважліва сочачы за работай. Гэта не лёгка, адмяраць нагамі сорак-шэсцьдзесят кіламетраў — штодзённы маршрут ад станка да станка. Але пасля змены Анна зайшла ў камітэт комсамола такой-жа энергічнай, свежай, якой была і ў пачатку работы. Не стамляецца яна, ці што?

Люся Мазохіна сказала, што Анна наогул ад прыроды чалавек багатых фізічных даных. Але Анна не згадзілася з гэтым.

— Спорт зрабіў мяне нястомнай, вось што. Памятаеце, як у песні: «Если хочешь быть здоров, — закаляйся». Вось я і загартавала сябе. На шасці станках працую. А хутка яшчэ два асвою.

Назаўтра раніца выдалася халодная. Здавалася, зноў вяртаецца зіма. Але што гэта? На балконе аднаго з дамоў дзяўчына ў спартыўнай форме. З-за дзвярэй чуваць голас: «Раз, два... Глыбей дыханне»... Дзяўчына робіць ранішнюю фіззарадку. Аказваецца, гэта наша знаёмая Анна Лузгіна. Вось дзе сакрэт яе нястомнасці!

Такіх, як Анна Лузгіна, аматараў спорту і выдатных работніц, на камбінаце шмат. Варта пабываць на галоўным стадыёне, які размешчаны над Дняпром, на стадыёне ручных гульняў, які знаходзіцца побач з камбінатам, альбо ў спартыўным клубе — і ўсюды вы сустрэнеце моладзь. Адны трэніруюцца ў бегу, другія — кідаюць дыск, трэція — гуляюць у валейбол, чацвёртыя — практыкуюцца на брусcях. Ёсць тут свае славутыя чэмпіёны. Як правіла, яны і лепшыя работніцы — слава камбіната.

Ніна Мітрафаненка і Нэла Харошча сяброўкі. Іх рабочыя месцы побач. Абедзьве — краўчыхі, абедзьве — спартсменкі. Калі Анне Лузгі-

Прачнуўшыся, Анна Лузгіна заўсёды робіць фіззарадку.



Анна Лузгіна абслугоўвае шэсць станкоў. Такіх работніц на камбінаце пакуль тры.



Гэтыя прызы заваявалі спартсмены камбіната.





ной трэба ўвесь час хадзіць, дык Ніна і Нэла павінны сядзець па восем гадзін, не ўстаючы з крэсла. Некалі краўчых адрознівалі ад іншых рабочых па зморшчанай фігуры. Ніна і Нэла, як і ўсе краўчыхі, стройныя, нібы бярозкі, што растуць на двары камбіната. І не дзіўна.

...Заняткі на стадыёне пачынаюцца ў пяць гадзін вечара. Але тут задоўга да пачатку заняткаў поўна народу. У правым сектары Ніна Мітрафаненка трэніруецца ў кіданні дыска. У левым — Нэла Харошча вучыцца браць старт, праходзіць віраж. Затым абедзьве прыгаюць у вышыню, бегаюць, займаюцца вольнымі практыкаваннямі. На гаравай дарожцы ў гэты час трэніруецца змена майстра Аўгусты Каракаўцавай. Змена добра папрацавала. Няма ніводнай работніцы, якая не перавыконвала-б норму. А зараз яны спаборнічаюць у бегу. Не бяда, што пакуль справы ў спорце ідуць горш, чым у працы. Прафесіянальнымі спартсменамі ніхто з работніц не збіраецца станавіцца, а загартаваць свой арганізм, зрабіць яго моцным, а цела прыгожым, — каму не хочацца.

У перапынку ўсе сабраліся ля варот, селі на мураву, разгаварыліся. Ніна Мітрафаненка ўспомніла, як яна ўцягнула ў спорт Нэлу Харошча, расказала, як спачатку мала было на камбінаце спартсменаў і як іх стала многа.

— Заўважце, болей прыходзіць на трэніроўкі работніц, болей становіцца на камбінаце і стаханаўцаў.

Ткачыха Тамара Рабік падтрымала Ніну.

— Раней на стадыён хадзілі па аднаму, а цяпер цэлымі зменамі. Хутка, мусіць, усім цэхам паваляць.

— Праўда, — падтрымала яе Нэла. — Як будзе спартакіяда, то які-ж цэх захоча адставаць.

Трэнеры і грамадскія інструктары пасля кароткай перадышкі зноў пачалі заняткі. Цяпер Ніна паказвала навічкам, як трэба скакаць у вышыню, а Нэла — як браць старт. К канцу заняткаў на стадыёне паявілася група веласіпедыстаў. Сярод іх лідыравала бялявая ткачыха Дуся Пруднікава.

— Прыгожа едзе, — з захапленнем сказаў нехта з дзяўчат. Ніна Мітрафаненка паглядзела ўслед.

— Сапраўды, прыгожа. А ці ведаеце вы, як яна гэтага дабілася? У мінулым годзе ўсё лета з абадранымі каленямі хадзіла. Тармазіць не ўмела, разгоніць веласіпед з гары, а спыніць не ўмее. Настойлівая, — з гонарам за сяброўку сказала Ніна.

— А я так ніколі не навучылася-б ездзіць, — засмучона сказала Тамара Палашчанка.

— Навучылася-б і ты, — Нэла Харошча абняла дзяўчыну за плечы. — Працуеш-жа на чатырох станках, ды яшчэ і норму перавыконваеш. А раней, памятаеш, на двух ледзь спраўлялася.

Падыйшла Дуся, прывіталася.



Краўчыху Нэлу Харошчу ведаюць на швейнай фабрыцы як лепшую работніцу.



Сярод аматараў спорту яна вядома як лепшая бягуння на кароткія дыстанцыі.

— Чым пахвалішся сёння? — спытала яна ў Нэлы.

— Работай ці спортам?

— І тым і другім.

— На рабоце — 215 працэнтаў дзённай нормы, а на стадыёне стометроўку за 14 секунд прабегла.

— Не дрэнна. А я сёння праехала пяцьдзесят кілометраў, і гэта пасля работы. Сёлета думаю заняць першае месца па таварыству ў рэспубліканскіх спаборніцтвах.

За гарадам хавалася сонца. Над стадыёнам апускаўся змрок. Але стадыён не пусцеў. На зялёнае поле выбеглі футбалісты, пачалася трэніроўка бегуноў на далёкія дыстанцыі. Са стадыёна ішлі ў пасёлак, калі над ім ужо заззялі электрычныя агні. Многія ішлі не дамоў, а ў клуб. Трэба паглядзець, як трэніруюцца штангісты, гіравікі, гімнасты, як задуменна схіліліся над шахматнымі дошкамі шахматысты.

Днём нам давялося пабываць у камбінацкім гаражы. Непадалёк ад галоўных варот ля легкавой машыны стаялі двое і аб нечым горача спрачаліся. Высветлілася, што адзін з іх нарміроўшчык гаража Канстанцін Іваноў, другі — шафёр Леанід Зайцаў. Уважліва агледаючы машыну, яны вызначалі аб'ём яе рамонту. Затым Канстанцін Іваноў паехаў правяраць дарогу да лесу, куды назаўтра павінны былі выехаць машыны камбіната. Сустрэць яго мы ўжо не спадзяваліся. Але ўвечары ён ужо сядзеў за шахматнай дошкай, разбіраючы нейкі складаны эндшпіль. Яго праціўнікам быў другі камбінацкі шахматыст слесар матальнага цэха прадзільнай фабрыкі Лазар Рыбалтовер. Летась у чэмпіянаце перамог Іваноў. Хто пераможа сёлета, пакажа час.

— Што робіце вы дзеля масавага развіцця спорту? — звярнуліся мы да Каці Мяркулавай, сакратара камітэта комсамола камбіната.

— Прыходзьце заўтра на стадыён ручных гульняў, і вы ўбачыце адно з нашых мерапрыемстваў.

Мы губляліся ў здагадках наконт таго, што члены камітэта будуць рабіць на стадыёне ручных гульняў? Праводзіць пасяджэнне, прымаць які-небудзь спартыўны зварот да моладзі, а можа зусім мітынг? Здаецца, любое з гэтых мерапрыемстваў лепш за ўсё праводзіць у клубе.

Назаўтра дзьмуў халодны, парывісты вецер. Час-ад-часу сонца праглядала скрозь хмары і зноў надоўга хавалася. Роўна ў дванаццаць мы былі на стадыёне ручных гульняў. Ішлі з думкай, што намечанае мерапрыемства, мусіць, сарвецца. У той час, як мы падыходзілі да валейбольнай пляцоўкі, з раздзявалак, што пабудаваны ў далёкім кутку, выбегла група дзяўчат у спартыўнай форме. Сярод іх мы пазналі многіх знаёмых работніц камбіната: Галю Муханаву, брыгадзіра з прадзільнага цэха, ткачыху комсорга участка Раю Ціценкову, пачатачніцу Паліну Шушкевіч, чатырохстаночніцу Анну Макоўскую і комсамольскіх важакоў Люсю Мазохіну і Кацю Мяркулаву.

— Вось цяпер і глядзіце на наша мерапрыемства. — Каця расставіла дзяўчат, пачалася трэніроўка валейбольнай секцыі. — Асабісты прыклад — гэта лепшае арганізацыйнае мерапрыемства. Вядома, мы абмяркоўваем пытанні развіцця спорту і на пасяджэннях, і на сходах, але нішто так не карысна для справы, як работа сярод моладзі і з моладдзю. А ў нас кожны комсамольскі актывіст — спартсмен.

У гэты-ж час поруч, у цэхах фабрыкі, першая змена змагалася за план, за новыя поспехі ў працы.

Каця Мяркулава (у цэнтры) на валейбольнай пляцоўцы.



Сакратар камітэта комсамола Каця Мяркулава заўсёды сярод моладзі. Вось яна (справа) у прадзільным цэху гутарыць з брыгадзірам аб рабоце моладзі.



# НА ЖЫТНЁВЫХ ХВАЛЯХ

С. КУХАРАЎ

Уваблалася ў сілу лета, захвалявалася, нібы бяскрайняе мора, жыта, сінімі азёрамі разліліся ільняныя палеткі, і зазвінелі маладымі песнямі кароткія ліпеньскія вечары. Зноў зарачанскія дзяўчаты, папрыбіраўшыся, бралі кірунак да прывабнага дома культуры.

Выдалася больш вольнага часу і ў механізатараў. Зарачанскі калгас імя Сталіна сёлета абслугоўвае асобная трактарная брыгада. Гэта больш дзесятка трактарыстаў ды камбайнеры, ды машыністы і прычэпшчыкі. І ўсё хлопцы не абы якія, а адзін да аднаго, як на падбор, сапраўдныя арлы. Вазьміце тых-жа Аркадзя Хомчанку ці Рыгора Бардзілоўскага. Найпершыя трактарысты, і ў танцах першынства не ўступяць. А Міхаіл Татурскі, Алёша Гусараў, Пеця Капітонаў... Імі ганарыцца калгас. Старшыня арцелі Пятро Рыгоравіч Вераб'ёў, звычайна скупы на пахвалу, пры выпадку абавязкова пахваліць сваіх хлопцаў-трактарыстаў:

— Мае гвардзейцы, ударная сіла! — гаворыць ён і звычайна пачынае расказваць, як вясною трактарысты дапякалі яго за ўсякую дробязь, не давалі спакою. Напорыстыя, неадступныя. Затое-ж і яму, старшыні, пашана. Калгас з году ў год у перадавых.

І сапраўды. Калгас імя Сталіна, дзе працуе комсамольска-маладзёжная трактарная брыгада Мікалая Марозава, першым у раёне закончыў веснавую сяўбу. Механізатары дапамаглі ў лепшыя тэрміны квадратна-гнездавым спосабам пасадзіць бульбу і кукурузу. З іх дапамогай прыводзяцца ў парадак сенажаці, асвойваюцца аблогі і тарфянікі.

...Міхаіл Татурскі, як ён сам казаў, не ахвочы да пагулянак. Яму ўсяго няпоўных дваццаць год, але ён больш горнецца да людзей сталых, да мужчын, якія заўсёды заняты справамі, жыццёвымі клопатамі.

Надвячоркам Міхаіл прышоў з канторы МТС, атрымаў заработную плату, аддаў грошы маці, павячэраў і выйшаў на вуліцу, прысеў на лавачцы пад любімым клёнам. Добра і цёпла было на душы ў Міхаіла. Можа таму, што такі прыгожы летні вечар і навокал такая ўрачыстая цішыня і спакой. А можа таму, што комсамольска-маладзёжная брыгада, у якой працуе Міхаіл, нарэшце выйшла ў перадавыя, а прозвішча Міхаіла красуецца ў першым радзе лепшых механізатараў, і ён, малады трактарыст, стаў перадавіком працы. Міхаіл пакуль яшчэ не старшы трактарыст, але ён ужо самастойна, нароўні з братам, кіруе машынай. На прадвесні сваімі рукамі перапрабаваў, перамацаў кожную дэталь, кожны вінцік свайго трактара. Можа, ён яшчэ не так добра разбіраецца ва ўсіх частках матора, як, скажам, яго брат Кастусь, але-ж затое той старшы трактарыст, у яго больш стаж і вопыт.

Важна, што і Міхаіл выбраў той шлях, па якім пайшоў яго брат, па якім ідуць яго старэйшыя сябры зарачанцы. Міхаіл нарадзіўся і вырас у гэтай вёсцы. І няма для яго большай радасці, чым удзельнічаць у стварэнні калгаснага багацця.

Міхаіл разгарнуў свежую газету, але яму нешта не чыталася. Свае, аднаму яму вядомыя думкі раіліся ў галаве. Чамусьці цяпер прыгадаліся тыя матчыны словы, якія яна сказала, калі Міхаіл наважыў пайсці на курсы трактарыстаў:

— А як-жа школа, сынок? Ты-ж абяцаў вучыцца. Няхай ужо той сваволькік, Кастусь, пайшоў, дык і ты робіш тое самае.

І яшчэ сказала яна Кастусю, старэйшаму свайму сыну:

— Ці для цябе, з адною нагою інваліда, чысцейшай работы не знайшлося? Ты-ж ваяваў, узнагароды ад улады маеш.

І ў той час Міхаіл быў на баку брата. Яму падабалася, што брат выбраў сабе такую прафесію, і асабліва падабалася, як ён адказаў на пярэчанні маткі:

— Таму я і іду на трактар, каб людзі не падумалі, што я цяпер няпоўнацэнны чалавек.

Так разважаючы сам з сабою, Міхаіл не прыкмеціў, як да яго падыйшоў Рыгор Бардзілоўскі, таксама трактарыст іхняй брыгады, пляснуў сваёй шырокай далонню па плячы:

— Здароў, Міша. Сумуеш?

— Няма чаго сумаваць. Вось адпачываю. Працу мы закончылі, бадай хіба там крыху аблогі засталося ў трэцяй брыгадзе, дык Кастусь сёння ноччу даарэ...

— А мне здаецца, што сумуеш? — хітраватыя Бардзілоўскі прыжмурыў вока. — Мусіць, якаянебудзь разварадзіла душу? Пэўна, Зося? Яна ўжо даўно з дзяўчатамі на танцы пашыбавала. Пойдзем і мы, а?

— Не, я не пайду. Заўтра рана ўставаць. Перапечкін наказваў, каб за сіласаванне браліся.

— Сходзім, дзівак! Таксама дамасед мне знайшоўся! Гэтак у халасцяках і век свой звякуеш. Хадзем, кажу!

Рыгор тузануў за руку Міхаіла і жартам, але напорыста крануў сябра з месца, намагаючыся ўсё-ж упрасіць сябра. Ён гаварыў:

— Далібог, не будзеш каяцца: лекцыя сёння там цікавая.

— Якая? — ажывіўся Міхаіл.

— Не ведаю. Здаецца, як жыццё пачалося на зямлі.

— Тады не пайду. У мяне кніжачка ёсць, сам пачытаю.

— Ну, што ты, Міша, пойдзем! Дарогай раскажу навіну. Ты ведаеш, хлопцы з «Першага мая» наважылі нас абагнаць. Нарада ў іх такая была.

— А мы і паспаборнічаем, — сур'ёзна сказаў Міхаіл, і ў яго голасе гучаў гонар за сваіх сяброў, за сваю комсамольска-маладзёжную. Ён цяпер толькі спахапіўся, што ідзе разам з Рыгорам на танцы, якія ён любіць не больш, чым працаваць другой хуткасцю на трактары. Але махнуў рукою і бардзэй закрочыў у нагу са сваім таварышам, з якім вось ужо другі год спаборнічае, з якім дружыць з маленства.

Рыгор Бардзілоўскі, як і Міхаіл, увішны, працавіты хлопец, з сёлетняй вясны ўжо мужчына, бо ажаніўся, але моцна трымаецца хлапечай звычкі: заўзята, да змору згуляць «польку», адбіць «цыганачку». Рыгор спяшаўся, а Міхаіл пахмуры ішоў нехаця.

— Ты не вешай носу, Міша, — жартуючы казаў Бардзілоўскі. — К восені ажэнім. Як гэта, каб першага класа трактарыст ды быў нежанаты. Паглядзіш, ажэнім.

— Лепш глядзі, каб твая не ўцякла, калі будзеш вось так адзін хадзіць.

— Чаму адзін? Яна ўжо там. Парадачак поўны, — і Рыгор задыміў цыгарку. Пасля некаторага маўчання цішыню летняга вечара зноў парушыў рыгораў басавіты, крыху прастуджаны голас:

— Хоць ты мяне, Міша, крыху і абагнаў вясной, але цяпер мы з Лёшам не адстанем. Будзе і на нашым «кадзіку» сцяжок усміхацца. Будзе, дальбог!

— А хіба я супроць? Разам-жа працуем, у адной брыгадзе, аднолькава за ўраджай змагаемся, — спакойна гаварыў Міхаіл. — Глядзі, якая шыр, раздолле! Абы жаданне, а паласа ў нашым калгасе шырокая, хопіць на ўсіх. Толькі не забывай, я адзін справы не вырашу. У мяне, ведаеш, галоўным Кастусь, мой брат, а з ім спаборнічаць не лёгка — характар у яго загартаваны.

— Ведаю.

— То-та-ж.

На здымках: **механізатары трактарнай брыгады падводзяць вынікі спаборніцтва.** (Злева направа): **І. Лахмыткін, М. Гурынаў, В. Рамашэўскі і Р. Бардзілоўскі.**

Унізе: **загадчык майстэрні Чавускай МТС В. І. Пятроў, галоўны аграном І. І. Грышчанка і дырэктар С. П. Механікаў прымаюць адрамантаваныя камбайны.**

Фото Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА).





...Трактарысты працавалі непадалёк ад вёскі. Сюды, у прахладную канторку на ўскраі жывёлагадоўчага двара, загнаў хлопцаў цёплы шумлівы лівень. Нібы ім хто загадаў сюды: сабраліся брыгадзір трактарнай брыгады Мікалай Марозаў, аграном Іван

Пятро ГЛЕБКА

# Расказ цесляра



Я, наколькі вам вядома,
Па прафесіі цясляр,
На любой будоўлі дома —
Першы госць і гаспадар.

Покуль возьмуцца машыны
Катлаван яшчэ капаць,
Цесляры ўжо там павінны
Агарожу збудаваць.

А пасля ізноў клапоты:
Ставіць кроквы, ладзіць дах...
Нам хапае, брат, работы,
Покуль выйдзе ў людзі гмах.

Я люблю яе бясконца,
Асабліва ў вышыні:
Паглядзіш на неба — сонца,
Хоць рукой яго крані;

На зямлю зірнеш — прасторы,
Ледзьве згледзіш сіні край,
Там — лясы, а там — азёры,
Там — шасэ, а там — ручай...

Дзень спадзе, павечарэе,
Глянеш зноў на ўсе бакі —
Пад табой зямля чарнее,
Над табой густы блакіт.

А вышэй у тым блакіце
Льюцца зоры серабром...
Не, сябры, што ні кажыце,
Лепш за ўсё быць цесляром!

Праўда, шмат не заглядайся,
Бо работы тут праз край,
Толькі ведай — завіхайся,
Толькі ведай — паспявай.

Мы стараліся па форме:
Без гультайства, без хлусні,
Чыстых сто працэнтаў нормы
Выраблялі дзень пры дні.

А бывала вельмі часта,
Падымаліся мы так,
Што давалі паўтараста
І ні процанта на брак.

І калі канчалі справу,
Гаварылі нам не раз:
«Дом збудованы наславу,
Залатыя рукі ў вас!»

Я, вядома, у тым ліку
Быў нядрэнны будаўнік,
Ды нядаўна невялікі
У мяне канфлікт узнік.

З нейкай Любчы ці Нароўлі,
Проста, з нейкага сяла,
К нам аднойчы на будоўлю
Атынкоўшчыца прыйшла.

Што-ж, прафесія таксама
Неблагая, можна жыць,
Хоць душа, скажу вам прама,
У мяне к ёй не ляжыць.

Тут ні спрыту, тут ні сілы,
Маж патроху па сцяне...
Вось на гэтым і злавіла
Атынкоўшчыца мяне.

Падышла яна аднойчы
Нашы нормы паглядзець,
На дзяўчат скасіла вочы,
Усміхнулася ледзь-ледзь.

«Штосьці, кажа, я не бачу
Залатых цяслярскіх рук.
Мусіць, хваляць іх няйначай
Не за нормы, а за стук.

Стуку шмат, а працы мала...»
Зноў вачыма павяла,
Галавою паківала,
Пастаяла і пайшла.

Узгарэўся я, што порах,
Узяло за сэрца, брат,
Кожны дзень даю сто сорак,
А яна... сто пяцьдзесят.

Не магу ні спаць, ні есці,
На рабоце — градам пот,
Выпрацоўваю ледзь не дзвесце,
А яна... вышэй двухсот.

І пайшло па ўсёй будоўлі
Паміж хлопцаў і дзяўчат:
«А ў работніцы з Нароўлі
Залатыя рукі, брат!»

Я маўчу. Нарэшце — трыста!..
Я не вытрымаў-такі
І на лодачную прыстань
Будаваць пайшоў масткі.

Збудавалі, як умелі,
І калі прыйшло цяпло,
У мінулую нядзелю
Адчыненне іх было.

Тлум такі быў, што нікога
Ні пабачыць, ні знайсці.
Ды, відаць, свая дарога
Ёсць у кожнага ў жыцці.

Толькі стаў я на прыступкі,
Чую збоку галасок:
«Ой, дзяўчаткі-галубкі,
Гляньце вы, які масток!

Гэта-ж цацка!.. Ну і рукі!
Дзе-ж яны такія ёсць?
Ах, каб знала — без прынукі
Аддала-б ім маладосць!

Хай-бы песцілі ласкава
Толькі дрэва і мяне»...
Тут яна зірнула ўправа
І заўважыла ўжо мне:

«Праўда, цуда, а не кладкі?
Я хачу па іх прайсці.
Патрымай мае пальчаткі...»
Я-ж узяў іх — і ўпусціў.

«Ну і рукі !Проста граблі!
Нікуды! Цяпер праз іх
І мае нашчэнт пазяблі...
На, сагрэй хоць у сваіх!»

Патрымаў я іх, малыя,
Дзве хвіліны патрымаў
Залатыя рукі тыя
І праз іх навек прапаў.

Адзінокі, кожны вечар
Я прыходжу на масткі,
Пастаю, сагнуўшы плечы,
Пагляджу на аганькі.

І не ведаю, ці ў рэчцы
Аж на дне яны відаць,
Ці ў маім уласным сэрцы
Не згараючы гараць.



---

Харытоненка, трактарысты Міхаіл Татурскі, Аркадзь Хомчанка, некалькі прычэпшчыкаў. Тут нейкім чынам аказаўся нават падвозчык гаручага Сцяпан Фёдаравіч, ганаровы механізатар, як яго называе моладзь. Апошнім, прамоклы да ніткі, убег у канторку Валодзя Чудакоў, сакратар камітэта камсамола МТС, каранасты, чарнявы, не па гадах стрыманы і засяроджаны малады чалавек.

— Цяпер парадак! — выгукнуў Аркадзь Хомчанка, нястомны весяльчак і балагур. — Дазвольце адкрыць, таварыш Чудакоў, палітінфармацыю: амаль уся трынаццатая сабралася...

— Добра было-б і сход брыгаднай групы распачаць, — уставіў Міхаіл Татурскі, — бо яна ў нас збіраецца два разы ў год: як выязджаем у поле і як збіраемся на сядзібе ўвосень.

— Трактарысты — дзелавыя людзі, — спрабаваў звесці на жарт гэтую заўвагу сакратар камітэта. — Яны не любяць засядацельскай мітусні, — і адразу-ж накінуўся на Хомчанку: — Калі-ж гэта ты запазычанасць па ўзносах ліквідуеш?

Але Аркадзь не разгубіўся, бойка адказаў:

— Запазычанасць у мяне невялікая, але вось скажы, калі пачнуць як мае быць працаваць камсамольскія групы?

— Хто ў вас агітатарам? — зноў хочучы перавесці гаворку на другое, запытаў Чудакоў.

— Я, — бойка адказаў аграном Іван Харытоненка. — Газеты мы чытаем разы два-тры на тыдні. Калі сам адлучуся, то даручаю гэтую справу Цыганкову, уцотчыку нашаму, ён хлопец пісьменны.

Хлопцы ўжо і прыціхлі былі, але тут наперад выйшаў Міхаіл. Секучы далонню паветра, ён горача загаварыў:

— Трэба прама сказаць, што камсамольскія групы ў нас існуюць амаль што фармальна. Калі ўзяць нашую, то яшчэ сёе-тое робіцца, бо ў нас групорг Гурынаў, чалавек патрабавальны, комуніст. А што ў іншых брыгадах? Цішыня і спакой! Гэта, здаецца, фармалізмам называецца. Ці так я кажу, таварыш сакратар?

— Гаварыць усе мастакі, — не здаваўся Чудакоў.

Падбадзёраныя словамі Міхаіла, хлопцы зашумелі, загаварылі, выказалі ўсё, што іх хвалявала. Не забылі нават пра тое, як цэлы месяц у канторы рабіліся пераходныя сцяжкі для трактарыстаў. Пераканаўча даводзілі, што ў камітэце комсамола часта любяць пашумець, а сапраўднай, крапатлівай работы з людзьмі каля агрэгатаў мала. Чаго далёка шукаць прыкладу, калі нават «баявыя лісткі» даўно не выходзяць, вынікі спаборніцтва не даводзяцца да кожнага трактарыста. Гаварылі і аб тым, што даўно час у трактарных брыгадах падабраць сталае месца, стварыць нешта накшталт брыгадных станаў, дзе можна было-б сабрацца, правесці час, абмеркаваць надзённыя пытанні.

Ужо і дождж даўно сціх, спапялела вячэрняя зара і ўсё больш гусцелі летнія прыцемкі, а хлопцы ўсё ніяк не маглі нагаварыцца, іх не праспешваў нават строгі, патрабавальны брыгадзір. Відаць, і яго зацікавіла гэтая шчырая, адкрытая размова. Вось толькі цяпер, зірнуўшы ў акно, брыгадзір загадаў:

— Хлопцы, па конях!

---

Шуміць, пераліваецца залатымі хвалямі збажына. Плыве ў наваколле водыр даспяваючай нівы — плён і гонар чалазечай працы. Звініць спелае калоссе, нібы заклікае: хутчэй у наступ, дружная сям'я маладых механізатараў!

**Чавуская МТС**
**Магілёўскай вобласці.**

# НАСТОЙЛІВАСЦЬ

**Ул. МЕХАЎ**

І

Размову сваю з Лідзіяй Міхайлаўнай Нікіцінай я пачаў з пытання аб тым, чым «спакусіла» яе дысертацыйная тэма, якую некалькі месяцаў назад яна паспяхова абараніла. Не буду таіць — вельмі хацелася пачуць штонебудзь незвычайнае, такое, што стала-б «ізюмінкай» будучага матэрыялу аб поспехах маладога вучонага.

Але Лідзія Міхайлаўна адразу разбіла спадзяванні на якую-небудзь незвычайнасць. Гісторыя яе выбару была вельмі простай. У хуткім часе пасля залічэння ў аспірантуру будучага вучонага выклікалі ў кабінет дырэктара і прапанавалі некалькі тэм.

— Ну, вось я і спынілася на тым, што, памойму, найбольш патрабавалася жыццём, — расказвае Лідзія Міхайлаўна.

У рабочым стале Нікіцінай, сярод мноства дыяграм, чарцяжоў і запісаў, захоўваецца тоўстая, акуратна пераплеценая кніжка — экземпляр дысертацыі. Калі чытаеш уводную частку работы, становіцца зразумелым, што іменна хаваецца за скупымі словамі: «Патрабавалася жыццём»...

Найтаннейшы гатунак торфу — торф фрэзернай здабычы — з кожным годам шырэй і шырэй выкарыстоўваецца ў нашай прамысловасці. Але высокая вільготнасць фрэзернага торфу, побач з іншымі адмоўнымі якасцямі, усё яшчэ перашкаджае паўсяменнаму яго выкарыстанню. Ужо даўно ўстаноўлена, што для павелічэння паліўных якасцей торфу ў топках катлоў трэба яго штучна дасушваць. Дасушка фрэзернага торфу неабходна таксама пры яго брыкетаванні, пры спальванні ў печах спецыяльнага прызначэння.

Сярод многіх сушыльных агрэгатаў, якія прапаноўваліся і прапануюцца дзеля гэтай мэты, значнае распаўсюджванне атрымалі так званыя пнеўмапаравыя сушылкі, або, як іх яшчэ называюць тарфянікі, «сушылкі Пеко». Сканструяваная ў 1936 годзе фірмай Пеко ў Лондане, гэтая сушылка да нашых дзён застаецца самай эканамічнай. Але высокая яе эканамічнасць дасягаецца вялікім выдаткаваннем электраэнергіі, непамерна высокай металаёмкасцю (вага сушылкі дасягае 165 тон) і надзвычай складанай канструкцыяй. Да таго-ж вытворчасць некаторых дэталей сушылкі, у прыватнасці, спецыяльных спіральных труб, у нашай краіне не наладжана і іх да гэтага часу даводзіцца прывозіць з-за мяжы.

Лідзія Нікіціна, учарашні інжынер Мінскага халадзільніка і нядаўняя студэнтка, узялася сваёй дысертацыяй даказаць, што ў сушылцы Пеко можна выкарыстоўваць звычайныя гладкія трубы, якія каштуюць значна танней і якія ў дастатковай колькасці вырабляюцца айчыннай прамысловасцю. Гэта была першая задача. Другая і трэцяя заключаліся ў тым, каб скараціць расход электраэнергіі пры эксплуатацыі сушылкі і знізіць яе металаёмкасць.

Вось у чым была жыццёвасць дысертацыйнай тэмы, якая насіла ў плане навуковай работы Інстытута энергетыкі Акадэміі навук БССР не вельмі паэтычную назву: «Даследаванне працэсу сушкі фрэзернага торфу ў пнеўмапаравой сушылцы».

2

Сонечнай летняй раніцай 1952 года да дырэктара Камароўскай ЦЭЦ прышлі Лідзія Нікіціна і яе навуковы кіраўнік, кандыдат тэхнічных навук І. Л. Любошыц. Аспірантка выглядала настолькі юнай, што нават цяжка было ўявіць яе працуючай у гарачай і душнай кацельні. А між тым, яна прасіла прадаставіць ёй магчымасць пабудаваць ля катлоў (каб можна было карыстацца адпрацаванай парай) эксперыментальную ўстаноўку і на працягу многіх месяцаў ля яе працаваць.

Магчыма, дырэктар адразу-б і не вырашыў гэтага пытання. Пабудова ў кацельні ўстаноўкі стварала пэўныя нязручнасці для рабочых ЦЭЦ. Але разам з Лідзіяй быў яе навуковы кіраўнік. А дацэнт Любошыц за доўгія гады даследчай работы заслужыў сярод энергетыкаў рэспублікі вялікую і добрую славу. Ён быў аўтарам каля сарака артыкулаў і даследаванняў, большасць якіх паспяхова вырашала надзённыя пытанні энергетычнай практыкі. І таму, распытаўшы падрабязна аб устаноўцы, дырэктар павёў гасцей у кацельню.

— Вось тут, — указаў ён на высокую цагляную сцяну, свабодную ад падагравальнікаў і іншых звычайных для кацельні прыбораў. — Задавальняе вас месца? Хопіць для вашай устаноўкі?

Лідзія Нікіціна толькі ўсміхнулася ў адказ. Дзе зручней можна было-б паставіць яе высачэзную 18-метровую ўстаноўку, як не тут, у памяшканні, дзе ад падлогі да столі было больш дваццаці метраў...

Аб шчырасці і прыязнасці, з якойаднесліся да яе работы і яе самой дырэкцыя і рабочыя ЦЭЦ, Нікіціна заўсёды ўспамінае, калі расказвае аб прычынах, што дазволілі ёй паспяхова і ў параўнальна кароткі тэрмін правесці грунтоўныя і вялікія па аб'ёму доследы. Увагу і дапамогу калектыву станцыі малады даследчык адчувала на кожным кроку. Заўважалі рабочыя, што Нікіцінай і яе лабарантцы цяжкавата адкручваць балты ў некаторых часцях устаноўкі — і кожны з іх, не чакаючы просьбы, забіраў у жанчын вялікі гаечны ключ. Псаваўся манометр, або патрабаваўся мармуровы шчыток для ўстаноўкі рубільніка — і Лідзія не губляла часу на язду да гаспадарнікаў Акадэміі навук, а ішла да дырэктара ЦЭЦ. Ён ахвотна дапамагаў.

З удзячнасцю расказвае Лідзія Міхайлаўна пра гэтыя клопаты аб яе рабоце.

З самага пачатку эксперыментальнай часткі работы яна ўстанавіла сабе недазволены нікімі законамі рабочы дзень — з 8-мі гадзін раніцы да 12-ці гадзін ночы. Нават выседзець столькі часу ў памяшканні, дзе тэмпература вельмі часта бывае нясцерпнай — гэта ўжо нялёгкая справа. Маладая-ж даследчыца ўсе 16 гадзін напружана працавала, шукала, падлічвала. Яна не толькі правярала вынікі і складала дыяграмы. Добра памятаючы, што навука не церпіць чыстаплюеў, Нікіціна разам з лабаранткай падрыхтоўвала для вопытаў торф, трэсла яго ў спецыяльным рэшаце, адбіраючы торфакрошку патрэбных памераў, а летам, калі ЦЭЦ спыніла работу, разам з памочнікамі абслугоўвала пабудаваны для нармальнага прадаўжэння вопытаў паравы кацёл.

Дні, тыдні, месяцы міналі ў напружанай, упартай рабоце. Вопыт за вопытам, вопыт за вопытам. Нават не злічыш, колькі іх было пастаўлена. У дысертацыю іх увайшло 160, але-ж зроблена было, бадай, удвая больш! Не дзіўна, што Ісак Львовіч Любошыц пазней прызнаваўся, што ў працэсе даследаванняў быў прыемна уражаны: працаздольнасць і настойлівасць Нікіцінай пераўзышлі нават найбольшыя яго спадзяванні.

І вось — абарона дысертацыі.

Многа прыемных слоў выслухала Нікіціна на пасяджэнні Вучонага Совета. Апаненты і таварышы па рабоце гаварылі аб практычнай каштоўнасці даследавання, аб настойлівасці і добрасумленнасці дысертанта, аб тым, як ездзіла яна на прамысловыя прадпрыемствы, каб зверыць, ці сыходзяцца вынікі яе доследаў з паказчыкамі вытворчасці... А адзін з прамоўцаў — паважаны прафесар — цёпла і шчыра адзначыў, што дысертацыя — гэта першае творчае выпрабаванне таго, хто хоча служыць навуцы. А будзе іх — многа!



## Мінскае мора

Там, дзе рачулкі Ратамка і Вяча ўпадаюць у Свіслач, пачынаецца маладое Мінскае мора. Гэта — справа рук беларускіх будаўнікоў. Тры гады назад прышлі яны сюды, каб зрабіць вялікае водасховішча, насыпаць дамбу, пабудаваць плаціну і электрастанцыю. І вось ужо плюскочуць ля берагоў хвалі, вее ад водных прастораў вільгаццю. Але работы яшчэ не закончаны. Яшчэ многа трэба зрабіць: пусціць у ход электрастанцыю, пасадзіць на берагах возера дрэвы, пабудаваць піянерскія лагеры, дамы адпачынку, дачы. Усё гэта справа недалёкага будучага.

Водасховішча — сапраўднае Мінскае мора. Па велічыні яно ўступіць толькі возеру Нарач. Яго глыбіня будзе дасягаць васьмі метраў. А па прыгажосці не будзе роўнага Мінскаму мору. Вакол — прыгожы лес-парк, пасярэдзіне мора размесцяцца 15 маляўнічых астравоў. У ваду пачалі запускаць малькоў. Пройдзе год-два — і ў моры будзе многа рыбы.

На будаўніцтве Мінскага мора працуе пераважна моладзь. Тэхнікі, прарабы, бульдозершчыкі, экскаватаршчыкі — усе імкнуцца хутчэй закончыць будаўніцтва, каб працоўныя атрымалі месца для здаровага і культурнага адпачынку.

На здымках: **выгляд водаскіднага збудавання; (унізе) прараб К. П. Васільеў і тэхнік камсамолец Міхаіл Кучаравы за тапаграфічнымі вымярэннямі на правабярэжнай частцы плаціны.**

Фота А. Дзітлава.





# Апошні ўрок

Ал. ПАЛЬЧЭЎСКІ

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Звычай апошняга званка ў Зарэчанскай школе мае дзесяцігадовую даўнасць. Яго завёў дырэктар Мікалай Сямёнавіч Крывіцкі. Вярнуўшыся з вайны, ён стараўся прывесці ў парадак не толькі школу, але і ўнесці хоць трошкі новага ў штодзённую аднастайнасць навучання. І не раз можна было чуць, як неўтаймаваны дырэктар гаварыў свайму завучу:

— Анатолі Пятровіч, застаньцеся на хвілінку пасля ўрокаў. Падумаем з вамі, можа яшчэ што новае ўвядзем.

Нягледзячы на свой пажылы ўзрост, Мікалай Сямёнавіч быў надзвычай рухавы. Цяжка было ўгадаць, дзе знаходзіцца ён у часе перапынку. То тут, то там чуваць быў яго спакойны голас.

— Валодзя, да чаго ты задумлівы стаў. Ай-яй-яй! Глядзі, паперку з рук выпусціў, — затрымлівае дырэктар вучня. — А яна, можа, патрэбна табе?

— Не, Мікалай Сямёнавіч, не патрэбна, — адказвае збянтэжаны Валодзя.

— Мне і ім, — паказвае дырэктар на вучняў, якія ўмомант утварылі круг, — яна таксама не патрэбна. — І тут-жа звяртаецца да аднаго з вучняў: — На што будзе падобны наш калідор, калі ўсе восемсот дваццаць вучняў кінуць па адной паперцы?

— На сметнік, — бойка адказвае вучань.

— Чуеш, Валодзя? Падымі і не рабі так больш. Вунь урна стаіць. Бачыш?

Валодзя павольна нагінаецца за паперкай і ад сораму не глядзіць у той бок, дзе стаіць дырэктар. Толькі дарэмна ён адварочваецца. Мікалай Сямёнавіч даўно ўжо на другім паверсе.

— Як ты думаеш, дзеля чаго зроблены фортачкі ў вокнах? — пытае ўжо ён у першага вучня, які трапляецца яму на вочы.

— Для асвяжэння паветра ў класе.

— Правільна. Адчыніце іх, а самі ідзіце ў калідор.

Усё гэта ў Мікалая Сямёнавіча выходзіла проста, ласкава і дасягала сваёй мэты.

Многа чаго змянілася ў школе за гэтыя дзесяць год. Заменены старыя парты новымі. Прыслалі некалькі маладых настаўнікаў, пабудавалі яшчэ адзін будынак, пабольшала класаў. Толькі апошні званок для дзесяцікласнікаў даецца з году ў год без ніякіх змен. Як і некалькі гадоў назад, да яго рыхтуюцца, яго чакаюць.

Строгія, сур'ёзныя стаяць юбіляры на лінейцы. Іх месца сёння трошкі воддаль ад усіх. Апошні раз стаяць разам неразлучныя сябры Міця, Валодзя, Коля, а побач з імі Соня. Далей яшчэ дзевятнаццаць вучняў. Усе яны прыбраны па-святочнаму, ва ўсіх на тварах радасць, шчасце.

З патайной зайздрасцю пазіраюць на сваіх старэйшых таварышаў малодшыя вучні.

— Нам яшчэ пяць гадоў чакаць такога дня, — шэпча пяцікласнік свайму суседу.

— Ды мы і ростам не такія, як яны, — суцяшае той.

Дырэктар і настаўнікі вітаюць сваіх выхаванцаў.

Ад вучняў даручана выступіць Міці Скробату. Ён пачаў гаварыць упэўнена, аднак на трэцім-чацвёртым сказе голас яго задрыжэў, змяніўся. І было ад чаго: столькі пар вачэй глядзелі на яго, столькі пар вушэй лавіла кожнае слова! Гэта табе не ў класе перад адным настаўнікам.

Міці хочацца многа чаго сказаць. І ёсць аб чым, але вось бяда: думкі бягуць хутка, не паспяваеш выказаць іх словамі. Нарэшце, ён дайшоў да канца.

— Ніколі мы не забудзем вас, дарагія нашы настаўнікі, і сваю любімую школу. А на экзаменах мы пастараемся апраўдаць вашы надзеі, адстаяць чэсць школы.

Усе пляскаюць у далоні. Дырэктар запрашае вучняў у класы.

...Прыціхлі гоман, весялосць у дзесятым класе. Многа пачуццяў выклікала лінейка ў выпускнікоў. Яны ведалі, што гэта будзе, чакалі, а як прыйшло яно, чаканае, адразу інакш сябе адчулі. Перад кожным адкрывалася шырокая дарога ў жыццё. Ды не адна! Многія даўно ўжо выбралі сабе гэтую дарогу, прывыклі да яе. І ўсё-ж апошні званок прынёс ім і радасць і ўнутраную трывогу.

У клас увайшоў Анатолі Пятровіч. Вучні ўсталі. Настаўнік абвёў усіх ласкавым поглядам, даў знак рукою сесці, а сам, уздыхнуўшы ціха, прамовіў ні то да сябе, ні то да вучняў:

— Ну, вось і апошні ўрок.

Потым моўчкі прайшоўся між парт і дадаў:

— Колькі разоў вы марылі аб ім! Усё хацелася пачуць працяжны заклік апошняга званка. А пачулі, і трывожна стала на сэрцы. Праўда? Прывыклі да сябраў, да настаўнікаў, а наперадзе ўсё новае, невядомае... Та-ак, апошні



урок. А ці даўно быў памятны першы! Не забыліся? — запытаў Анатолі Пятровіч і сам адказаў: — Канешне, не. Гэта-ж толькі дзесяць гадоў прайшло. Не маглі забыць. У мяне пяцьдзесят пяць год прайшло, як я пайшоў у першы клас і то помню.

І Анатолі Пятровіч прыгадвае свой першы ўрок.

...Невялікая вёска ля балота з хатамі па адзін бок вуліцы. Цёмны пакой школы з маленькімі вокнамі. Закітаваныя ўдоўж і ўпоперак кавалкі разбітых шыб. Тры самаробныя негабляваныя «парты» — сталы. Нанач гаспадар выносіць іх на двор, а раніцою заносіць у хату. Днём, пакуль Толя, цяперашні Анатолі Пятровіч, вучыўся з другімі адзінаццацю вучнямі, гаспадар з сям'ёю знаходзіўся ў невялікай прыбудове-кухні. Адтуль раз-по-разу далятаў крык і плач яго дзяцей.

Сівенькі дзядуля-настаўнік сядзеў на табурэце, калі бацька прывёў Толю ўпершыню ў клас. Перад настаўнікам на стале ляжаў сплецены з сырамяці бізун. Толя добра ведаў гэты бізун: з ім дзядуля-пастух усё лета хадзіў за жывёлаю, толькі доўгая дратаваніца была адвязана цяпер.

— Глядзі, вучыся, — пагразіў бацька пальцам Толю пры адыходзе. — Плаціць два пуды хлеба за зіму ды карміць чалавека на дванаццаты дзень дарма не буду.

— Будзе вучыцца. У мяне памочнік ёсць, — і дзядуля-настаўнік патрос бізуном у паветры.

Анатолі Пятровіч добра памятае свайго першага настаўніка. Малапісьменны «дзеду Мікалай», як звалі яго вучні, сядзіць на табурэтцы і беспярэстанку пыхае люлькай. Вучні па чарзе прыходзяць да яго і здаюць заданне. Урок цягнецца без канца, пакуль не здадуць усе. Дзядуля рэдка калі паправіць слова, а то сядзіць і паглядае моўчкі ў акно. Якія думы агортвалі дзеда, цяжка сказаць. Можа, ён думаў, што яму зімою куды лепш, чым улетку: не трэба пасвіць кароў, не лье за каўнер. А можа пра сваю адзінокую старасць...

У кожнага з цяперашніх вучняў дзесятага класа, якія так уважліва слухаюць свайго класнага настаўніка, першы ўрок таксама пачынаўся па-свойму. Адных ветліва сустрэла ўпершыню маладая настаўніца, другіх — сівы настаўнік, які не раз ужо адчыняў насцеж дзверы навічкам. А былі і такія, як Валодзя Андрэйчык, што не трапілі разам з другімі на першы ўрок.

Валодзя сядзіць цяпер каля адчыненага акна і глядзіць на шырокую дарогу, што праходзіць паўз школу і знікае ў зелені калгасных палёў. Ён слухае, як Анатолі Пятровіч расказвае пра свой першы ўрок, і перад ім самім паўстае пэражытае.

За два тыдні да заняткаў маці прывяла Валодзю ў школу. Настаўніца паглядзела метрыку і аддала назад.

— Не дарос яшчэ. Няхай пагуляе гадок, — раіць яна маці.

Лёгка было гаварыць настаўніцы такія словы, а як было слухаць іх Валодзі! Усе таварышы ідуць вучыцца, а ты, Валодзя, забаўляйся дома кубікамі. Або слухай і вучы разам з сястрою вершы. І так колькі ён іх ведае! Нават сястры падказвае, калі тая саб'ецца.

Першага верасня Валодзя прышоў разам з сябрамі ў школу, але першы радасны званок быў не для яго. Колька з Міцькам пайшлі ў клас, а Валодзя застаўся на калідоры. Абапёршыся на падаконнік локцямі, ён глядзеў праз акно на парыжэлы луг, а слёзы самі капалі адна за другой. Ідучы па калідоры, Анатолі Пятровіч заўважыў валодзева гора, падышоў, пагладзіў сваёй мяккай рукой русую галоўку, нахіліўся і спытаў:

— Ты спазніўся на першы ўрок?

— Не, — адказаў Валодзя, не падымаючы галавы.

— Пабіўся з кім-небудзь?

Валодзя адмоўна кіўнуў галавою і ўсхліпнуў:

— Мне няма сямі гадоў.

— Вунь якая ў цябе бяда! А вучыцца будзеш добра?

— Буду.

— Прыходзь заўтра з мамай.

Бягом паімчаўся Валодзя дахаты. Хіба можна спакойна ісці і чакаць да заўтрага? І ў той-жа дзень, толькі на чацвёрты ўрок, трапіў ён да сваіх сяброў — Колькі і Міцькі.

— Кожную работу любіць трэба, а нашу, настаўніцкую, тым больш, — гаворыць Анатолі Пятровіч. — Прыходзіце вы сюды маленькімі са сваімі звычкамі, а падчас з капрызамі. І трэба навучыць вас усяму добраму. Душу ўсю ўкладваеш, сэрцам хварэеш за кожнага.

— Мы адчувалі гэта, Анатолі Пятровіч, і не раз бачылі вашы перажыванні. Думаеце, мала дасталося Міці ад нас за двойку? Скажы, Міця, сам, — звяртаецца Валодзя да свайго таварыша.

Міця Скробат, цыбаты, з вялікім чубам, нізка нахіляецца над партай і маўчыць. І трэба-ж было так здарыцца: на носе экзамены, а тут двойка па хіміі. Анатолі Пятровіч прышоў тады ўсхваляваны: больш за месяц у школе не было ўжо нават тройкі, а тут, на табе, двойка!

Якім недарэчным здаецца цяпер Міці самому апраўданне перад Анатоліем Пятровічам: «Балела галава — не мог вывучыць». Хіба класны кіраўнік не разумеў сапраўднай прычыны? Чаму не сказаць было адразу ўсё, як яно здарылася. Гульня ў футбол да змроку. Іхняй камандзе шанцавала, як ніколі. А вечарам кіно — «Чэмпіён свету». Такую карціну нельга і аднаму прапусціць, а тут яшчэ Соня сустрэлася і так чароўна ўсміхаецца: «Можа сёння балельшчыкамі пабудзем разам?» У каго хапіла-б смеласці адмовіцца, а тым больш, калі сэрца забілася часцей? Прызнацца, што ён не падрыхтаваў яшчэ хіміі і гісторыі, у Міці не павярнуўся язык. Гісторыю прачытаў у класе між урокамі, а хімію на хаду не асіліш.

Цяпер усё гэта — у мінулым. Па хіміі стаіць гадавая адзнака чатыры, аднак падняць галаву, зірнуць настаўніку ў твар Міця не адважваецца. Усе весела жартуюць з яго, расказваюць Анатолію Пятровічу сапраўдную прычыну.

— Гэта Соня Мацыевіч тады натварыла ўсё, — кідае рэпліку Жэня Сысоеў.

Соня густа пачырванела і, скоса глянуўшы на Жэню, адказала:

— А пры чым тут Соня? Ён ведаў — не вывучаны ўрок, няхайбы не ішоў. Я сама люблю футбол, але ўрокаў на яго не прамяняю. І сказала яму проста так, па-таварыску.

— Кажы, кажы... па-таварыску. А пасля кіно хто больш за гадзіну стаяў каля варот? — не адстае Жэня.

— А ты чаго, як непрытомны, блукаў па вуліцы? — дае здачы Соня.

Жэня чырванее, але не губляецца:

— Я проста прагульваўся. Мне не хацелася спаць. А ноч такая цёплая, харошая.



Ніна ТАРАС

## МОРА

Зіхціць пад сонцам гладзь марская,
Блакітная жывая гладзь,
А што на дне яна хавае,
Пад глыбай водаў не відаць.
І толькі ў буру-непагоду,
Як шторм успеніцца да хмар,
Часамі з дна марскога воды
На бераг выплесnуць янтар.

Душа людская — дно марское...
Хто ты, скажы мне, дружа мой,
Каб я ў хвіліны непакою
Не ашукалася табой.
Каб у парывах захаплення
Драбок звычайных горных руд
Пад бляскам сонечных праменняў
Не прыняла за ізумруд.

Усе ведаюць сапраўдную прычыну жэневай бяссонніцы і таму весела смяюцца. Разам з імі смяецца і класны кіраўнік.

— Ну, а як мой «падшэфны» сябе адчувае? — спытаў Анатолі Пятровіч, калі смех трохі ўлёгся. — Не гневаешся за мой учынак?

Падшэфным Анатолія Пятровіча лічыўся Коля Савіч. У восьмым класе ён тры дні падрад не прышоў у школу. Класны настаўнік пайшоў да яго на кватэру. Коліна маці на двары яшчэ заўважыла Анатолія Пятровіча і забегала па хаце, як утрапёная.

— Гэта-ж думаць, чаго дачакаўся! Настаўнік сам ідзе. Ведама-ж, у яго другой работы няма, як Кольку, такога знатнага вучня, праведваць.

Маці пайшла насустрач настаўніку, а Коля моўчкі сядзеў на ложку каля акна і глядзеў з-пад ілба на дзверы. Пры ўваходзе класнага кіраўніка ён устаў з апушчанымі вачыма і скрозь зубы прывітаў яго.

— Фізкультурнікам хоча быць, а вучыцца — ні блізка. Бацькі няма, дык гаспадаром сябе адчувае, — скардзілася маці, выціраючы фартухом крэсла, каб запрасіць настаўніка сесці.

— У яго няма бацькі, а ў мяне вялікія дзеці, дык ён будзе маім падшэфным. Добра, Коля? — спытаў настаўнік. — А фізкультурніку грамата не менш патрэбна, як другім. Ты дрэнна ўяўляеш фізкультуру, хлопча.

Коля моўчкі слухаў Анатолія Пятровіча і паабяцаў заўтра прыйсці ў школу. Але і назаўтра не з'явіўся. Тады Анатолі Пятровіч надумаў зрабіць інačай. На наступны дзень ён выйшаў з дому на поўгадзіны раней і зайшоў па Колю. На гэты раз яны выйшлі ў школу разам.

— А заўтра ты зайдзі па мяне. Табе па дарозе. Добра? — сказаў настаўнік, калі яны зайшлі ў школьны калідор.

Коля нічога не адказаў, але і не зайшоў. А калі настаўнік самна-сам спытаў у яго, чаму ён прамінуў сёння настаўнікаву хату, дык той адказаў:

— Я рана вельмі ішоў. Вы, можа, спалі яшчэ.

— Можа і спаў. Як будзеш ісці часам пазней, заходзь, не сароМейся. Мы ўмовіліся з табой: я твой шэф, а ты мой падшэфны. Праўда?

Так і не зайшоў ні разу Коля па свайго шэфа. Затое, як-бы рана не наведаўся ў свой клас Анатолі Пятровіч, Коля першы прывітае яго.

І цяпер, калі класны кіраўнік пытае ў свайго выхаванца, ці не гневаецца ён на яго, хіба можа павярнуцца язык сказаць блага? Коля ўстае і поўны самых лепшых слоў і пачуццяў да свайго настаўніка, гаворыць:

— Анатолі Пятровіч, я вас ніколі не забуду. Успомню, і самому сорамна робіцца. Розум дзіцячы быў. Каб не вы, дык зусім па-іншаму склалася-б маё жыццё. А фізкультурнікам я усё-ж такі буду.

Настаўнік усміхаецца. Яшчэ адна заслужаная падзяка. Колькі іх было за сорак пяць гадоў! І вусна, і пісьмова.

— Праўду кажаш, розум дзіцячы быў. Гляджу на вас і радуюся: выраслі, пасталелі, паразумнелі... Праз месяц як атрымаеце атэстаты і разляціцеся, як птушкі, хто куды: адны на завод, другія — у калгас, трэція — вучыцца. Перад вамі работа, лекцыі прафесараў, а я пайду, мабыць, на адпачынак. Збіраўся раней, ды вас не мог пакінуць. Да новых прывыкаць не буду, — закончыў Анатолі Пятровіч.

І невыказны смутак агарнуў вучняў. Як цікава ўмее Анатолі Пятровіч расказваць пра розныя гістарычныя падзеі. Можа, і другі, што прыдзе яму на змену, будзе не горш, але дзесяцікласнікі гатовы былі спрачацца з любым — такога настаўніка пашукаць!

Даўно празвінеў званок з урока, даўно апусцелі суседнія класы, а апошні ўрок у дзесятым класе ўсё не канчаецца.

Дырэктар школы ціха адчыняе дзверы класа і здзіўлена пытае ў настаўніка:

— Вы яшчэ тут, Анатолі Пятровіч?

— Як бачыце, Мікалай Сямёнавіч.

— Урокі даўно скончаны. Хіба вы не чулі званка?

— Чулі. Толькі мы ніяк не можам скончыць свайго ўрока.

Мікалай Сямёнавіч кіўнуў галавою.

— Разумею вас, разумею. Апошні ўрок пасля апошняга званка. Так я развітваўся калісьці перад ад'ездам сюды з сваімі артылерыстамі. Ніяк не маглі расстацца. Гадзіны тры сядзелі вось так, — абвёў дырэктар рукою вучняў,— і ўспаміналі добрае і благое. Было што ўспомніць пасля стольkiх гадоў вайны...

— Ёсць што і нам успомніць з Анатоліем Пятровічам, — кідае рэпліку Коля.

— Працягвайце, працягвайце, — гаворыць на хаду дырэктар і такімі шпаркімі крокамі выходзіць з класа, што вучні не пасняваюць нават устаць.

Праз некаторы час, акружаны вучнямі, Анатолі Пятровіч выходзіць на вуліцу. Свеціць яркае майскае сонца, трымціць паветра над дахам. Цеплыня і радасць навакол, а на сэрцы настаўніка і вучняў — удвая.

— Глядзіце, гульнямі не вельмі захапляйцеся... Памятайце пра экзамены, — перасцерагае настаўнік.

— Анатолі Пятровіч, не падвядзём, — чуюцца ў адказ на перасцярогу звонкія галасы.

Вучні ідуць далей, а настаўнік заходзіць у свой двор, абапіраецца локцямі на веснічкі і доўга глядзіць ім услед. Потым погляд яго спыняецца на школе. «Дваццаць сем гадоў кожнае раніцы я хадзіў туды. І цяпер пакінуць, развітацца? А чым зоймеш вольны час? Гэта-ж столькі будзе яго, ціхага, цягучага, без шуму, без любых галасоў. Ды і не такія яшчэ мае гады, каб сядзець, склаўшы рукі, — разважае Анатолі Пятровіч. — Трэба заўтра-ж сказаць дырэктару: вазьму яшчэ адзін выпуск, няхай маюць у РайАНА на ўвазе», — цвёрда вырашае ён і лёгкаю хадою, нібы скінуўшы надакучлівы цяжар, ідзе ў хату.

# НОВЫЯ КНІГІ

## „Пад чужымі сцягамі"

«Пад чужымі сцягамі» — так называецца кніга пісьменніка Уладзіміра Бяляева і прафесара Міхаіла Рудніцкага. Гэта не мастацкі твор. Гэта — баявая публіцыстыка, абвінаваўчы акт, пацверджаны дакументальнымі матэрыяламі, супраць украінскага буржуазнага нацыяналізма.

Прадажная дзейнасць буржуазнага нацыяналізма пачалася даўно, яшчэ ў дарэволюцыйныя часы. Адны сынкі украінскіх паноў і капіталістаў, такія, як Скарападскі, пачалі сваю дзейнасць у Пецербургу, другія-ж, тыпу Данцова, у Вене, але ўсе яны, поўныя нянавісці да працоўнага украінца, сыйшліся ў часе грамадзянскай вайны пад адны чорныя сцягі. Да іх далучаліся ўсё новыя і новыя крывавыя каты: Пятлюра і Вінніченка, Бандэра і Мельнік, Кубійовіч і Ахрымовіч. Ды і няма патрэбы пералічваць усіх вылюдкаў. Адно зразумела, што ўсе яны пачалі свой крывавы шлях, як прадажныя найміты замежных разведак, як агенты міжнароднага імперыялізма. Гэта яны, прыкрываючыся лозунгам «вызвалення» і стварэння «самасційнай» Украіны, імкнуліся адарваць яе ад братняга рускага народа і другіх савецкіх народаў і зрабіць прыдаткам буржуазных краін. Іх мэта была зусім ясная: хай гнуцца спіны украінскіх рабочых і сялян, хай гінуць лепшыя сыны і дочкі народа, абы панавала буржуазія, хоць сабе і іншаземная, абы ўсякія пятлюры адчувалі сябе хоцьбы ўяўнымі, але гаспадарамі. Да каго яны толькі ні звярталіся за дапамогай: і да панскай Польшчы, і да фашысцкай Германіі, да буржуазнай Францыі, і, нарэшце, да Амерыкі і Англіі. Учарашні вораг станавіўся другам, калі толькі гутарка ішла аб барацьбе супраць совецкага народа.

Адны за другімі мяняліся атаманы пад ударамі арміі працоўнага народа. Білі іх народныя палкаводцы Шчорс і Бажэнка, якія загадвалі: «Біць з чатырох гармат, як з дванаццаці», бо не хапала зброі. І адступалі пятлюраўскія палкі, узброеныя першакласнай замежнай ваеннай тэхнікай. Білі, не шкадуючы, украінскіх буржуазных нацыяналістаў і воіны 1-га Украінскага фронта ў часе Айчыннай вайны. У 1943 годзе за некалькі гадзін пад Бродамі разам з гітлераўскімі дывізіямі была разбіта нацыяналістычная дывізія СС «Галічына».

Не раз, разбітыя ўшчэнт, гэтыя шалёныя ворагі украінскага народа цягнулі свае акрываўленыя лапы, хто ў Варшаву, хто ў Вену, хто ў Берлін, хто ў Парыж, а некаторыя траплялі аж за акіян. Але, як кажуць, бітаму не спіцца, і адтуль яны спрабавалі правесці свае патаемныя ніці на вызваленыя землі, стваралі падпольныя тэрарыстычныя і шпіёнскія арганізацыі, якія дзейнічалі па-бандыцку, з-за вугла. «Наша ўлада павінна быць страшнай», — такім быў іх лозунг, узяты з фашысцкага лексікона.

Гэтыя агідныя вылюдкі пад маркай абароны прадавалі свой народ таму, каму было выгадней. У кнізе прыводзяцца цікавыя факты, пацверджаныя дакументамі. Як толькі гітлераўцы занялі Польшчу, Сцяпан Бандэра павёў перагаворы ў Кракаве з гестапа аб складанні спісаў тых асоб, якіх неабходна было знішчыць, як толькі фашысцкая армія ступіць на совецкую зямлю. Такія спісы былі складзены бандэраўцамі цераз сваю агентуру і перададзены гестапа яшчэ да пачатку вайны, у 1940 годзе. І калі гітлераўцы ў 1941 годзе занялі Львоў, па гэтых спісах гестапаўцы адразу-ж пачалі распраўляцца з совецкімі людзьмі. У гэтым ім дапамагалі нацыяналісты, якія адкрыта пачалі служыць нямецкім акупантам. Характэрна, што знішчаўся не толькі совецкі актыў, але і навуковая інтэлігенцыя. Так загінулі дзесяткі вучоных-прафесараў, некаторыя з іх былі сусветна вядомымі.

Гісторыя Львова яшчэ не ведала такіх жорсткіх распраў з людзьмі, якія ні ў чым не былі вінаваты. З гэтага часу расправы па даносах і з удзелам бандэраўцаў і мельнікаўцаў пачаліся па ўсіх абласцях Заходняй Украіны.

Загаварыў украінскі нацыяналістычны друк, усхваляючы Гітлера, які абяцаў вынішчыць усе славянскія народы. Адначасова загаварылі і паліцэйскія аўтаматы, знішчаючы славян-украінцаў, аб вызваленні якіх трубілі буржуазныя нацыяналісты.

Вось пад якімі сцягамі яны дзейнічалі!

Больш таго. З правакацыйнымі мэтамі яны пачалі ствараць так званыя «партызанскія» атрады, вядомыя пад маркай ЦВО (украінскай ваеннай арганізацыі), а ў народзе іх проста называлі па імені іх кіраўнікоў — «бандэраўцы», «бульбаўцы» і інш. Іх мэтай было перашкодзіць совецкаму партызанскаму руху, а прамая задача — знішчаць усіх, хто падняў ці можа падняць зброю супраць чужаземных захопнікаў.

Мне, як удзельніку партызанскага руху на Украіне, не раз прыходзілася сутыкацца з бандэраўцамі. Калі гітлераўцы пачынаюць аперацыю супроць нашых партызан, то бандэраўцы абавязкова ўдараць у спіну. І гора тым, хто выпадкова трапіць у іх рукі. Самыя жорсткія катаванні прыдумвалі яны для совецкіх патрыётаў.

Гэтыя прадажныя «самасційнікі» не супакоіліся нават тады, калі Совецкая Армія пераможна вызваліла заходнія вобласці Украіны. Галавары ўцяклі са сваімі гаспадарамі, а іхняе ахвосце прадаўжала шкодзіць і шпіянажам, і ўзброенай барацьбой.

Чытаючы кнігу «Пад чужымі сцягамі», успамінаеш многія эпізоды 1943 года: як пад Луцкам гарэлі сёлы, падпаленыя бандэраўцамі пры наступленні Совецкай Арміі; як забівалі начамі совецкіх воінаў — выхадцаў з заходніх абласцей, калі іх адпускалі дадому.

Арганізатары ўсіх гэтых крывавых спраў запляміл сябе перад украінскім народам і выкрылі сябе канчаткова. Пасля вайны яны знайшлі прытулак у Заходняй Германіі пад апекай амерыканскага імперыялізма. Гэта для іх асігноўвае амерыканскі кангрэс 100 мільёнаў долараў. Гэта яны, розныя мельнікі і бандэры, раз'язджаюць цяпер па Заходняй Еўропе і Амерыцы, вярбуючы новую пятую калону імперыялізма. Гэтыя бандыты без роду і племя прадаліся цяпер за долары. У кнізе прыводзяцца многія факты, як прагрэсіўныя украінскія арганізацыі за мяжой перад ўсім светам выкрываюць прадажных адшчапенцаў, што заплямілі свае рукі маркамі, доларамі і крывёй. На іх сумленні, як і на сумленні Ватыкана, ляжыць зладзейскае забойства многіх выдатных дзеячоў, у тым ліку і вядомага пісьменніка Яраслава Галана.

Выкрыццю рэакцыйнай ролі каталіцкай царквы і ў першую чаргу мітрапаліта ўніяцкай царквы графа Шэптыцкага, які нямала нашкодзіў і ў Беларусі, прысвечана многа старонак.

Кніга напісана простай, сакавітай мовай і чытаецца, як мастацкі твор.

Нашай моладзі трэба ведаць аб прадажнай крывавай сутнасці агентаў міжнароднай рэакцыі — буржуазных нацыяналістах. Кніга У. Бяляева і М. Рудніцкага дае поўнае ўяўленне аб гэтым. Кнігу «Пад чужымі сцягамі» варта было-б выдаць і на беларускай мове.

**Р. НЯХАЙ.**



**Даярка саўгаса «Рось» Гродзенскай вобласці Анна Паўловіч вось ужо некалькі год трымае першынство сярод саўгасных даярак. У гэтым годзе яна зноў з'яўляецца ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.**

На здымку: **А. Паўловіч паказвае піонерам-экскурсантам адну з сваіх кароў-рэкардыстак.**

Фото А. Дзітлава.





# ШТУРМ ВЯРШЫНЬ СВЕТГАРА

**З году ў год беларускія альпіністы ўдзельнічаюць у складаных альпінісцкіх паходах. Гэтыя здымкі зроблены студэнтам Беларускага інстытута фізкультуры Юрыем Гаві ў час траверса вяршыняў Светгара — галоўнага Каўказскага хрыбта, што з'яўляецца вышэйшай катэгорыяй цяжкасці.** Уверсе: **Панарама галоўнага Каўказскага хрыбта.** У крузе: **— Возера ля падножжа перавала Асмашы, якое знаходзіцца на вышыні 3700 м.** Унізе злева: **Група ўдзельнікаў узыходжання на прывале.** Справа: **Альпіністы дасягнулі вышыні 4100 м.**





# Аб густах спрачаюцца

**Лідзія РАЖАНАВА,**

**заслужаная артыстка БССР**

Можа тое, пра што я скажу, не будзе адкрыццём і не з'яўляецца абавязковым для кожнага. Са мной нават могуць не згадзіцца — скажуць: аб густах не спрачаюцца. Але трэба прызнаць за аксіёму, што пра густы неабходна гаварыць часцей, што добры густ можна і патрэбна прывіваць. Мы не мірымся з праявамі варожай нам ідэалогіі, мы адкідваем прэч апалітычнасць, нізкапаклонства, забабоны — усё, што засталося ад мінулага ў свядомасці людзей. Ну, а хіба мы не павінны пакончыць з безгустоўнасцю, з рэшткамі мяшчанска-купецкіх грубых, пошлых густаў, якія бытуюць сярод часткі моладзі?

Так, павінны. Гэта задача кожнага савецкага чалавека, які будуе вялікае і прыгожае жыццё.

За гады савецкай улады вырасла новая, сацыялістычная культура. Мільёны простых савецкіх людзей не толькі сталі пісьменнымі, у іх сфармаваліся новыя густы. Мастацтва, музыка, літаратура сталі здабыткам усяго народа. Савецкі чалавек добра адрознівае прыгожае і чыстае ад агіднага і бруднага, сапраўднае ад падробленага, вялікую літаратуру ад бульварных раманаў, класічную музыку ад «музыкі» «кабарэ», жывапіс ад фармалістычнай мазні. І вельмі прыкра бывае, калі побач з добрым, простым і прыгожым, сустракаеш дрэннае, пошлае, безгустоўнае. Вось пра гэта і хочацца пагаварыць.

Вам, напэўна, не раз прыходзілася звяртаць увагу на простыя, але па-мастацку зробленыя і па колеру, і па памеру, і па майстэрству выканання рэчы? Проста і так прыгожа! Хочацца бясконца глядзець на іх. І наадварот, выклікаюць крыўду безгустоўныя, хоць і дарагія рэчы.

Чалавек, які не мае добрага густу, не ўмее стварыць утульнасць, прыгожа і танна апрануцца. Нядаўна мне давялося пабываць на адной кватэры. Уявіце сабе пакой, застаўлены мэбляю, завешаны дыванамі. Сталы, столікі, канапы, розныя падстаўкі (і ўсё гэта вельмі дарагое!) стваралі ўражанне, быццам гэта не кватэра, а мэблевы магазін. Усё абсталяванне пакоя не толькі не выклікала жадання адпачыць, а неяк яшчэ больш стамляла. А гаспадары, напэўна, ставілі крэслы для таго, каб на іх мог пасядзець госць, канапу, каб на ёй зручней было адпачыць. І калі я выйшла з гэтага пакоя на вуліцу, неяк адразу зрабілася лёгка: такое адчуванне з'яўляецца, калі выходзіш з антыкварнага магазіна. А бывае і так: у пакоі толькі самае неабходнае, мэбля расстаўлена з густам, шпалеры гарманіруюць з павешанымі на сцены карцінамі і вышыўкамі. Усё зроблена ў меру, ніякіх лішніх упрыгожанняў. У такім пакоі хочацца пасядзець больш, адпачыць, пагутарыць.

Не думаю, што знойдуцца чытачы, якія будуць сцвярджаць, што папяровыя кветкі ўпрыгожваюць жыллё. У многіх кватэрах мне даводзілася бачыць гэтыя самыя папяровыя кветкі. Бяда, магчыма, не ў тым, што гэтыя кветкі папяровыя, значна горш тое, што яны маюць недарэчны колер і зроблены груба, халоднымі рукамі рамесніка. Нажаль, такія кветкі не толькі прадаюцца, яны, за адсутнасцю лепшых, купляюцца. Вельмі часта нельга сказаць, што іменна за кветкі прадаюцца — так збрыджана іх форма і колер. А прырода-ж надзяліла кветкі такімі фарбамі, якія сапраўды лашчаць вока. Чаму-ж дазваляюць нейкім гора-мастакам абражаць прыгажосць прыроды, зневажаць яе? Згадзіцеся са мной: няхай на маім стале ў вазе будзе ўсяго дзве кветкі, але жывыя, прыгожыя, яны створаць утульнасць лепш, чым дзесяткі бясформенных папяровых кветак.

Зайдзіце ў пакой да дзяўчат любога інтэрната трактарнага завода. Амаль над кожным ложкам да сцяны пад шклом і без шкла прымацаваны паштоўкі з пошлымі відамі, з плоскімі, таннымі надпісамі, фатаграфіі ў палаючых сэрцах, вакол якіх красуюцца непісьменныя надпісы, накшталт: «Няхай мая непадзвіжная лічнасць напамінае аб любві», «Любячы не забывай» і г. д. Галубкам, якія цалуюцца, райскім птушкам, што нясуць ліст ад мілага, розным парачкам у непрыстойных позах — усім гэтым неад'емным атрыбутам купецкіх дочак, якія ні аб чым не думалі, апрача таго, каб злавіць жаніха, не месца ў нашым сённяшнім жыцці. І ўжо зусім дзіўна, што фотакарткі з пошлымі надпісамі прадаўжаюць вырабляць некаторыя арцелі, што камсамольскія работнікі, выхавацелі інтэрнатаў зусім не займаюцца выхаваннем у моладзі добрага, строгага густу. Я звяртаюся да тых, хто любіць паштоўкі: купляйце тыя з іх, на якіх рэпрадуцыраваны карціны Айвазоўскага, Шышкіна, Рэпіна, Левітана, Брулова. Калі вы добра ўгледзецеся ў іх, то колькі цудоўных успамінаў яны абудзяць, колькі высакародных думак з'явіцца ў вас. Можа вам захочацца пісаць вершы, і ўжо, напэўна, павее ад гэтых паштовак каханнем, але не тым пошлым і дробным, што нясуць райскія птушкі, а вялікім, сапраўды чалавечым, чыстым.

І зноў аб утульнасці нашага жылля. Не дарагія рэчы вызначаюць ваш густ, а тое, як яны зроблены, як расстаўлены. Не буфет з дарагім начыннем будзе гаварыць пра вашу культурнасць, а кніжная шафа. А што там казаць, у некаторых на першы план пастаўлен буфет і вялізнае люстра, а кніжная шафа прытулілася недзе ў калідоры.

Вы, напэўна, не раз усміхаліся, убачыўшы ў трамваі жанчыну ці дзяўчыну, на якой увесь набор фарбаў вясёлкі. А як часта дзяўчына, убачыўшы другую дзяўчыну, з густам апранутую, пачынае капіраваць яе, не ўлічваючы сваіх фізічных магчымасцей (колер вачэй, валасоў, рост і г. д.). Бывае і так, што жанчына, зрабіўшы сабе добрае паліто, пачынае шукаць капялюш ці касынку і ў пагоні за модай купляе зусім не падыходзячае да яе. Смешна і сумна. Апранацца з густам, танна, стварыць для сябе простую, але прыгожую аправу — задача цяжкая і складаная, але магчымая для кожнага. Як часта жанчыны гоняцца за дарагімі тканінамі і калі знаходзяць, дык бяруць першае, што трапляецца пад руку, стракатае, непрыгожае. Не кошт тканіны, а яе выгляд, колер, афарбоўка — вось што галоўнае.

Напэўна, многія бачылі такіх жанчын, якія ў пагоні за «модай» адрэзваюць прыгожыя косы, робяць завіўкі, забыўшыся на свае рысы твару. І нярэдка жанчына выходзіць з цырульні непазнавальнай, знявечанай новай прычоскай. Потым яна будзе раскайвацца, убачыўшы, як ранейшая прычоска ўпрыгожвала яе.

Ці падабаецца вам чырвоны манікюр? Мне падабаецца. Толькі не заўсёды ім трэба захапляцца. Хіба можа рабіць яго жанчына, у якой шырокія пазногці і кароткія пальцы? Манікюр тут толькі будзе падкрэсліваць фізічны недахоп, звяртаць на яго ўвагу. А наогул, лепш не фарбаваць пазногці, а пільна сачыць за іх чыстатой і акуратнасцю.

Аднак, з густам зробленае абсталяванне кватэры, адзенне, прычоска, яшчэ не гавораць аб высокім гусце чалавека. Часта ў прыгожым гарнітуры можна бачыць пустое і нікчэмнае стварэнне. У чалавека павінны быць прыгожыя справы і думкі. Прыгожа апрануты гультай выклікае не толькі абурэнне, але і агіду.

Часта можна бачыць, як малады чалавек захапляецца лёгкай, бульварнай літаратурай. У прыватнасці студэнты некаторых ВНУ толькі і заняты тым, каб дастаць і прачытаць якую-небудзь яшчэ бабульчыну кніжку. Гэта зрабілася своеасаблівым спортам. А запытайцеся ў тых-жа студэнтаў пра творы М. Горкага, Л. Талстога, А. Фадзеева, і яны пачнуць блытацца нават у назвах. Або захапленне лёгкай музыкай і поўнае ігнараванне класічнай. Гэта ідзе не ад добрага густу.

У мяне запытаюць: што рабіць для выхавання добрага густу?

Справа гэта не лёгкая. Выхаванне густу трэба пачынаць з дзяцінства. Яшчэ ў маленстве дзіцяці трэба прывіваць добры густ: прывучаць яго да працы, да павагі старэйшых, навучыць адрозніваць добрае ад дрэннага, прыгожае ад непрыгожага. Мне здаецца, трэба рашуча выступаць супраць дзіцячых цацак, якія псуюць дзіцячы густ. Цацка павінна быць і па форме і па колеру прыгожай.

І, безумоўна, многае можа зрабіць у прывіцці добрых густаў школа. У нашых школах праводзяць дыспуты на розныя тэмы. А дзе, скажыце, быў праведзены дыспут на тэму: што такое прыгажосць, як выпрацаваць добры густ і г. д.?

А нашы тэатры, кіно, клубы. Якую яны могуць прынесці карысць! Трэба толькі разумна прапагандаваць прыгожае.

Хацелася-б, каб нашы газеты, радыё больш дапамагалі ў прывіцці добрых густаў. Часам-жа ў газетах можна бачыць фатаграфіі са зрэзанымі вугламі, якія абведзены чорнай лініяй, нібы ў сямейным альбоме. Гэта не садзейнічае выхаванню добрых густаў у моладзі.

Больш лекцый, артыкулаў на такія тэмы і справа рашуча кранецца з месца!

А ці мала зрабілі-б мастацкія саветы пры нашых фабрыках, арцелях. Настаў час сур'ёзна падумаць аб стварэнні прыгожых узораў рабочай вопраткі. Дом мадэлей павінен не толькі думаць над тым, якое выхадное плацце можна прапанаваць у сёлетнім сезоне, але і аб тым, якім павінен быць касцюм трактарысткі, тынкоўшчыцы, шафёра і г. д.

Мне здаецца, што ў горадзе нехта павінен сачыць за тым, якая мастацкая прадукцыя прадаецца ў магазінах, якая рэклама расклейваецца на рэкламных шчытах, якія малюнкі вывешваюцца. Звярніце ўвагу хоць-бы на рэкламу апошніх фільмаў, якая развешана па гораду, і вы ўбачыце ў ёй шмат безгустоўшчыны, пошласці, халтуры.

Усяляк трэба вітаць лекцыі-канцэрты, якія праводзяцца ў кансерваторыі. Хацелася-б, каб лекцыі таксама праводзілі Саюз мастакоў, бібліятэкі, Дом мадэлей і ўсе тыя арганізацыі, якія заклікаюць прывіваць добрыя густы.



Старшына міліцыі Сяргей Канавалаў заўсёды дасць патрэбную спраўку.
Фото М. Мінковіча.

# ВЫСОКІ ПОСТ

**Г. СЯРГЕЕНКА**

Быў позні вечар. Старшына міліцыі Міхаіл Шыбко павольна абходзіў свой участак. У дамах гаслі апошнія агні, тут, на ўскраіне, ужо не чуваць было гарадскога шуму. Смеючыся прайшлі дзве парачкі. «Не інакш, з кіно. Апошні сеанс скончыўся», — падумаў Шыбко.

Цішыня і спакой не перашкаджалі думаць. Шыбко ўспомніў, як сёння перад выхадам на пост начальнік аддзялення дакараў некаторых падначаленых за непаваротлівасць, слабую ініцыятыву. Хоць і крыўдна было слухаць гэтыя словы, але ў іх было многа праўды.

— Мы можам працаваць лепш, — сказаў у заключэнне маёр Баравец. — Учора паступілі два сігналы аб хуліганскіх учынках у нашым раёне. Была ў адной кватэры пакража. А мы знайшлі злачынцаў? Не. Так працаваць нельга. Трэба бязлітасна весці барацьбу з носьбітамі капіталістычных перажыткаў — хуліганамі, бандытамі, злодзеямі, спекулянтамі, парушальнікамі парадку.

Шыбко ішоў і думаў, што сапраўды іншы раз у міліцэйскай службе бываюць промахі. А гэта толькі на руку розным цёмным элементам.

Прайшло з поўгадзіны. Раптам з завулка пачуўся глухі шум, і Шыбко насцярожыўся. З-за вугла дома насустрач яму выбегла некалькі чалавек. Убачыўшы міліцыянера, незнаёмыя, як па камандзе, павярнулі ў процілеглы бок. «Тут штосьці не так», — мільганула думка, і Шыбко кінуўся наперарэз незнаёмым.

— Прашу спыніцца!

— У чым справа?

— Прад'явіце, калі ласка, дакументы.

Незнаёмыя, а іх было чацвёра, кінуліся ўрассыпную. Тупат ног і прарэзлівая трэль міліцэйскага свістка абудзілі начную цішыню. Выклікаючы сабе дапамогу, Шыбко кінуўся за ўцекачамі. Ён ведаў, што аднаго з незнаёмцаў абавязкова дагоніць, нездарма-ж ён сістэматычна займаецца спортам. І сапраўды, не прайшло і двух мінут, як адзін з уцекачоў быў злоўлены. Падаспеўшыя таварышы па службе затрымалі другога незнаёмага. У той-жа вечар былі затрыманы яшчэ два ўдзельнікі злачыннай шайкі.

Затрыманыя аказаліся людзьмі без пэўных заняткаў. У той вечар яны спрабавалі абрабаваць грамадзяніна Н., але ім перашкодзіў міліцыянер. Злачынцы прызналіся, што яны за апошнія месяцы не раз выходзілі на грабеж. Хутка яны прадсталі перад судом і панеслі суровае пакаранне.

Зазвінеў тэлефон.

— Дзяжурны другога аддзялення слухае.

З вакзала перадалі: некалькі мінут назад у грамадзяніна Аўтуха ўкрадзены вялікі жоўты чамадан. У ім вопратка, грошы і дакументы. Прасілі прыняць неадкладныя захады.

Не прайшло і поўгадзіны, як усе паставыя міліцыянеры ведалі аб пакражы. У гэты час старшы сяржант Іван Дымчанка знаходзіўся на пасту ля трамвайнага прыпынку па Чырвонай вуліцы. Старшы сяржант уважліва прыглядаўся да прахожых. І калі з трамвайнага вагона выйшаў чалавек з жоўтым чамаданам, Дымчанка рушыў яму насустрач.

— Грамадзянін! Прашу прабачэння. Скажыце, калі ласка, што знаходзіцца ў чамадане?

— Не ведаю. Чамадан належыць брату.

— А дзе ваш брат жыве?

Незнаёмы сумеўся, але ўсё-ж сказаў:

— Па вуліцы Куйбышэва ў доме нумар... трыццаць восем.

Старшы сяржант усміхнуўся, але нічога не сказаў. Ён добра ведаў, што ў названым доме ніхто не жыве. Там размешчана ўстанова.

Пры праверцы адрасу, як і трэба было чакаць, ніякага брата там не аказалася. «Я адрас забыў», — прабаваў апраўдацца «уладальнік» чамадана.

— Прашу прайсці са мной у аддзяленне.

Доўга ўпіраўся затрыманы, выдумляючы розныя прычыны, але старшы сяржант настаяў на сваім. У аддзяленні хутка высветлілася, што гэта якраз і быў той чамадан, аб якім папярэджвалі з вакзала. Яго ўкраў нейкі Гальеўскі, якога за злыдзейства ўжо двойчы судзілі. І на гэты раз злодзею не ўдалося пажывіцца. Рэчы, грошы, дакументы хутка былі вернуты іх гаспадару.

Жыхары вуліц Чырвонай, Фурманава, Куйбышэва, Пугачоўскай добра ведаюць старшага сяржанта Івана Дымчанку. Тут яго ўчастак. Ветлівы і ўважлівы, ён дапаможа сляпому перайсці вуліцу, падсадзіць бабульку ў трамвай, адвядзе дамоў да бацькоў малое дзіця, калі яно заблудзіцца. Многія жыхары дапамагаюць міліцыянеру ў яго высакароднай справе. На ўчастку, які абслугоўвае старшы сяржант, за апошнія месяцы не было ніводнага выпадку хуліганства.

Старшына міліцыі Сяргей Канавалаў, старшыя сяржанты комсамольцы Мікалай Філіпенка, Пятро Кажура таксама могуць расказаць шмат цікавага аб малых і вялікіх, але аднолькава важных справах, якімі напоўнены звычайныя будні совецкага міліцыянера. Пятро Кажура ўзнагароджаны Граматай ЦК ЛКСМБ.

Важныя і пачэсныя абавязкі кожнага нашага радавога міліцыянера. Але яшчэ больш адказныя яны ў афіцэраў міліцыі. Ім прыходзіцца не толькі кіраваць сваімі падначаленымі, але і прымаць неадкладныя меры па кожнаму факту парушэння совецкіх законаў, выконваць складаныя заданні.

Работнікам 2-га аддзялення міліцыі стала вядома, што на ўскраінах горада арудуе вопытны грабежнік. Час-ад-часу з наступленнем цемры ён выходзіць на дарогу з добра вывучанай аўчаркай. Па яго камандзе сабака кідаецца на людзей і прымушае іх стаяць нерухома. У гэты час нягоднік забірае грошы і рэчы. Спробы злавіць злачынцу пры дапамозе засады не дапамаглі, бо ён часта змяняў раён дзеяння. Ахвярай яго стаў майстар трактарнага завода Б. Бандыт на гэты раз прымусіў чалавека не толькі аддаць грошы, але і скінуць вопратку. Узамен нахабнік кінуў Б. стары, парваны пінжак.

Старшы лейтэнант Ціхон Харытонавіч Суднікаў, які вёў расследаванне справы, рашыў агледзець пінжак. Спачатку ён нічога не выявіў. Цяжка было ўстанавіць, каму належыць прынесены ў міліцыю лахман. Суднікаў пачаў адрываць падкладку. Адтуль выпаў невялікі абрывак газеты. Асцярожна разгарнуўшы яго, старшы лейтэнант прачытаў ледзь прыкметны надпіс: «Уладзімір Злобіч». Суднікаў рашыў, што гэта імя і прозвішча таго, каму належала газета. Хутка ў яго былі адрасы ўсіх мінчан па прозвішчу Злобіч. Старшы лейтэнант у першую чаргу пачаў пошукі Злобічаў, якія пражывалі паблізу месцаў, дзе адбываліся грабежніцтвы.

Праз некалькі дзён Суднікаў выявіў злачынцу. Праўда, гэта быў не Уладзімір Злобіч, а яго сын Аляксандр. Кінуўшы працу на заводзе, 20-гадовы Злобіч стаў грабежнікам. Але тут яго, як і іншых аматараў лёгкай нажывы, напаткала суровая рука совецкага закона.

Служба совецкага міліцыянера — гэта не толькі выкрыццё грабежнікаў, злодзеяў. Значна больш выпадкаў, калі дастаткова толькі аднаго папярэджання, звычайнага міліцэйскага свістка — і чалавек выпраўляе сваю памылку, ніколі не паўтараючы яе больш.

Так здарылася, напрыклад, з токарам завода «Ударнік» комсамольцам Е. Аднойчы ў нецвярозым выглядзе ён з групай сяброў разбіў акно ў адным з дамоў па Сасноваму завулку. У выніку малады чалавек аказаўся ў аддзяленні міліцыі. Падыходзячы да справы фармальна, яго можна было аддаць пад суд. Але не так паступіў намеснік начальніка аддзялення лейтэнант Леанід Клімовіч. Калі токар працверазіўся, лейтэнант пагаварыў з ім, падрабязна высветліў абставіны яго ўчынку. Лейтэнант добра бачыў, што ўчынак зроблены маладым рабочым выпадкова. У такой справе дастаткова было званка ў камітэт комсамола завода. Так іменна і паступіў Клімовіч. Цяпер гэты малады чалавек, сустрэўшы на вуліцы лейтэнанта Клімовіча, вітаецца з ім, як з добрым знаёмым. Ён расказвае яму аб сваіх поспехах па рабоце, а яны ў яго паляпшаюцца з месяца ў месяц, успамінае свой «прывод» у міліцыю, як прыкрую недарэчнасць.

Калі гаварыць наконт падзяк, то з усіх работнікаў міліцыі іх прыпадае больш за ўсё на долю памочніка інспектара дзіцячага пакоя Яніны Іванаўны Ясінскай. У вялікім горадзе нярэдкія выпадкі, калі малыя дзеці, вышаўшы з двара, не могуць знайсці дарогу дадому. Бывае і так, што трохгадовы малыш або дзяўчынка, — як правіла, народ вельмі цікаўны, — губляюць сваіх бацькоў проста на вуліцы, у магазіне. Вось з такімі грамадзянамі і прыходзіцца разбірацца Яніне Іванаўне. Добра, калі дзіця хоць ведае, як завуць яго бацькоў ці маці. Часцей яно гэтага сказаць не можа. Тым не менш, у практыцы Яніны Іванаўны яшчэ не было выпадку, каб яна не адправіла дзяцей да бацькоў. Трапіла да сваіх бацькоў двухгадовая Нэла Лагацкая, якая, расплакаўшыся, забыла нават уласнае імя, 4-гадовы Міша Грамацкі, брацік і сястра Лінцэвічы.

Шмат вялікіх і малых спраў выпадае на долю нашай міліцыі. Ганаровая, патрэбная яе работа!

**г. Мінск.**



# Драмлюгавы тэзісы

Рыгор ПАДГОРНЫ

Мал. Е. Ціхановіча.

Аднаго разу надвячоркам, калі работы было, хоць адбаўляй, ля варот свінафермы спыніўся матацыкл. Марыля выбегла на панадворак і ўбачыла інструктара райкома комсамола Эдуарда Грамабоя. Калі-б яна яго не ведала ў твар, магла-б падумаць, што гэта прыехаў які вайсковец. На ім быў зеленкаватага колеру фрэнч з навеснымі кішэнямі, галіфэ з калошамі, як дудачкі на каленях і ніжэй аж да блішчастых наглянцаваных халявак хромавых ботаў, а з-пад шапкі выбівалася русявая чупрына.

— Я спецыяльна да цябе, Галубовіч, прыехаў. От што, паслязаўтра ў Мінску рэспубліканская нарада маладых жывёлаводаў. Дык мы вырашылі, каб ты паехала на яе.

— Чаго-ж я паеду, я-ж не перадавічка якая!

— Як-жа не перадавічка? У цябе-ж лепшыя ў раёне паказчыкі. ноў-жа такі, ты комсорг групы. эта, ведаеш, як прагучыць, калі ты яшчэ выступіш! На ўсю рэспубліку!

— Ды як-жа я выступлю? Што я там гаварыць буду? Хіба толькі так, языком ляпаць, — запярэчыла Марыля.

Грамабой усміхнуўся і ўжо са спакоем чалавека, які ўсё загадзя прадбачыў, сказаў:

— Не бойся, таварыш Галубовіч, мы ў райкоме падумалі, што табе там гаварыць, — і размашыстым рухам ён адвязаў ад багажніка бліскучы новы партфель, выняў з яго блакнот у шэрай вокладцы і гэткім-жа рашучым рухам выдраў з яго лісткоў з дзесяць.

— От табе тут усё напісана, толькі вывучы. Глядзі-ж, каб усё добра было, а заўтра ўвечары ў райком комсамола і адтуль — на цягнік. Ну, пакуль бывай да заўтрага. Мне яшчэ ў «Чырвоны прамень» трэба адскочыць, — і матацыкл запылію па прасёлачнай дарозе.

А Марыля, гледзячы ў далячынь, дзе на дарозе маленькай кропкай чарнеў грамабоеў матацыкл, як-бы сама сабе сказала:

— Яму што адыходзіць! Ён наплёў мне гэтых кашалёў, а сам сеў і паехаў сабе.

Цягнік на Мінск адыходзіў у сярэдзіне ночы. Грамабоя і яшчэ нейкіх двух незнаёмых дзяўчат Марыля застала на вакзале. Інструктар райкома нешта горача ім тлумачыў, расказваў. Марылю ён сустрэў шырокай, відаць, не вельмі добразычлівай усмешкай. Мабыць, баяўся, што дзяўчына спозніцца.

— Як-жа гэта ты так робіш: я цябе чакаю, а ты сабе нямаведама чаго бавішся.

— Ды от работы было, дык не магла-ж я кінуць-рынуць.

— А як з прамовай? Вывучыла?

— Калі-ж я вывучыла? Яшчэ і не бралася. От хіба ў вагоне.

— Ну то глядзі-ж!



Выпала так, што Грамабой з незнаёмымі Марылі дзяўчатамі занялі тры месцы ў адным купэ, а марыліна месца аказалася ў суседнім, на ніжняй полцы. Дзве верхнія полкі былі занятыя. Процілеглая ніжняя пуставала. Як толькі ўлёгся гармідар пасадкі, Марыля скінула туфлі і, падкурчыўшы пад сябе ногі, села на сваё месца вучыць прамову. Грамабой зазірнуў у марыліна купэ, убачыў, што яна ўпілася вачыма ў лісткі з яго шэрага блакнота, і не стаў ёй перашкаджаць. Марыля спачатку ціха сама сабе чытала, а потым вырашыла паспрабаваць уголас, як гэта яно будзе гучаць. Чалавек, што спаў на верхняй полцы насупраць Марылі, прачнуўся і пачуў:

— Пад кіраўніцтвам і пры штодзённай і дзейснай дапамозе райкома комсамола я дабілася на кожную свінаматкагалаву па семнаццаць і пяць дзесятых дзелавых парасят. На кілограм прыросту жывое вагі ў нас на ферме выдаткоўваецца палавіна чалавекапрацадня і пяць і тры дзесятых кармавой адзінкі.

Марыля сама не зусім добра разумела, што яна чытала... Таго-ж Грамабоя яна калі і бачыла, дык адно каля варот фермы заўчора, як ён прывёз гэтыя лісткі. Але гэта, мусіць, так трэба—пад кіраўніцтвам райкома. Зноў-жа такі яна не ведала, што гэта за пяць дзесятых парасяці. Гэта, мусіць, Грамабой меў на ўвазе тых заморкаў, што маленькімі нараджаліся. Дык яны-ж тым часам выраўняліся і ўжо можна іх лічыць цэлымі парасятамі. Але Марылі не было калі ўдумвацца ў тыя дэталі, ёй карцела зараз прамова, і яна, павысіўшы голас, дэкламавала адно і тое-ж:

— Пад кіраўніцтвам...

Прамова ў памяці не вельмі-то заставалася. Марылі ў школе даводзілася часта вучыць на памяць не толькі вершы, але і празаічныя тэксты. Дык тыя неяк хутчэй садзіліся ў галаву. А гэтага-ж ніяк не ўваб'еш.

У суседнім купэ, дзе быў Грамабой, нехта вельмі раскаціста хроп. Мусіць-жа ён! Гэта крыху перашкаджала Марылі, але яна, стараючыся адагнаць усё пабочнае, ужо на ўвесь голас паўтарала на памяць: «Пад кіраўніцтвам...» Чалавек, які прачнуўся на верхняй полцы і на якога Марыля не звяртала ніякай увагі, не стрымаўся:

— Што гэта на вас бессань якая напала, ці што?

Марыля, адарваўшы вочы ад лісткоў паперы, спадылба бліснула на яго. Ёй хацелася сказаць: «І на цябе напала-б такая бессань, каб гэтак давялося». Але яна гэтак не сказала, а толькі спытала:

— Можа я вам спаць не даю?

— Ды не, чаго! Я і пад бубен магу добра спаць. Толькі от мяне дзіва бярэ, што гэта вы такое вучыце?

— Да выступлення вось рыхтуюся.

— Дык чаго вы па гэтай паперцы? Хіба ў вас свайго языка няма?

Марылю злосць разабрала на гэтага чалавека: чаго ён шыецца не ў сваю мякіну? Але яна змоўчала і аж да самага Мінска не ўстравала ў гаворку з ім. У дзяўчыны быў свой клопат.

На нараду прышлі яны акурат перад пачаткам. Эдуард Грамабой і ў тралейбусе па дарозе з вакзала да дома, дзе адбывалася нарада, усё настаўляў Марылю:

— Ты-ж глядзі, не збіся. Каб мне гаварыла, як па пісанаму. Ды адразу-ж пасля даклада і запіску ў прэзідыум пусці, папрасі слова.

Паселі яны ў розных месцах: Грамабой з дзвюма дзяўчатамі на першых радах, а яна, Марылька, можа ў якім перадапошнім. Даклад слухала вельмі ўважліва. Для яе ўсё было незвычайным, новым: і гэтая ўпрыгожаная зала, і гэтулькі людзей, і асабліва выступленне дзяўчыны, якая адразу-ж, як толькі скончыўся даклад, узяла слова. Завідкі бралі, як яна складна гаварыла. А такая-ж самая, як і Марыля. І гэта, можа, паддало дзяўчыне ахвоты. Яна хуценька, нібы баючыся, каб хто-небудзь не пабачыў, дастала з кішэні лісткі паперы і на адным з іх напісала: «Прашу слова». Падпісала прозвішча, згарнула і пусціла па руках аж у прэзідыум. З гэтага моманту Марыля сядзела, як сама не свая. Ёй здавалася, што вось-вось старшыня сходу вымавіць яе прозвішча, і яна пойдзе туды, на сцэну. Дрыжачымі ру-



камі яна зноў дастала тыя лісткі з блакнота, хацела прабегчы вачыма. Пачала хуценька гартаць, і ў яе аж у ваччу пацямнела: таго лістка, на якім было напісана: «пад кіраўніцтвам», не было. Яна, нервуючыся, перабрала яшчэ раз-другі, і, нарэшце, ёй цюкнула ў галаву: гэта-ж яна на ім напісала запіску ў прэзідыум. Марыля хацела ўжо ўстаць і ўцячы з залы, як пачула голас старшыні.

— Таварышы, у нас выступіла дзесяць чалавек. На чарзе яшчэ сем прамоўцаў. Ёсць прапанова зрабіць перапынак і пайсці ў тэатр, паглядзець спектакль. Хто за гэта, прашу галасаваць.

У Марылі як гара з плеч звалілася, і яна з асаблівым задавальненнем ускінула ўгару руку: клопат з тым лістком аж station назаўтра адкладзецца. А старшыня працягваў:

— Заўтра пачынаем працаваць у адзінаццаць гадзін. Першай у спрэчках выступіць свінарка калгаса «Зялёная дуброва» Марыля Галубовіч.

Старшыня сходу, верцячы ў руках марылiну запіску, чамусьці ўглыбіўся вачыма ў яе і засмяяўся, а потым пусціў па руках членаў прэзідыума. Усе глядзелі, чыталі запіску і таксама смяяліся. Гэта ўразіла Марылю: яна здагадвалася, што чыталі яе прамову. Але чаго-ж яны смяюцца? Можа, Грамабой што не так напісаў?

На выхадзе з залы Грамабой спаткаў Марылю і сказаў:

— Ты-ж, мабыць, чула, што заўтра першай выступаеш?

— Чуць-то я чула... Але вось бяда — згубіла пачатак прамовы. Вучыла, вучыла, а на памяць і не вывучыла.

— Ды як-жа гэта ты так! Эх, ты... — злосна мармытнуў Грамабой.

Марыля не ведала, што ёй рабіць. Яна вінавата пазірала на інструктара, як-бы просячы прабачэння, але ўсё-ж не трацячы надзеі, што ён яе выручыць. І сапраўды, Грамабой, хвілін колькі падумаўшы і як-бы страпянуўшыся, сказаў:

— Але ты не думай многа: да заўтрашняга я падумаю. Напішу... Гэты самы пачатак, там, дзе пад кіраўніцтвам і пры штодзённай і дзейснай дапамозе?

— Ну, але...

— Заўтра за якую гадзіну да пачатку нарады я табе занясу ў пакой, і ты зможаш яшчэ вывучыць.

У тэатр яны зайшлі з такім настроем, якбы нічога і не здарылася. На сцэне ішла п'еса Аляксандра Карнейчука «Крылле». Сцішыўшыся, Марыля глядзела, слухала, што гаварылі там артысты. Вось у кабінет сакратара абкома партыі заходзяць людзі. Ідзе гаворка пра нараду. Драмлюга — старшыня аблвыканкома, дакладвае сакратару, што да нарады ўсё падрыхтавана. Марыля зірнула на Драмлюгу і чамусьці ёй прышоў на памяць Грамабой. Хіба мо' таму, што і на Драмлюгу быў гэтакі-ж вайсковага пакрою касцюм? Але-ж Драмлюга ў два разы таўсцейшы за Грамабоя... Яна аж азірнулася ў той рад, дзе сядзеў Эдуард Грамабой. На твары яго расплылася ўсмешка. Ён смяяўся з таго, што на сцэне гаварылі пра тыя прамовы, якія падрыхтавала для ўдзельнікаў нарады драмлюгава канцылярыя.

Яны сустрэліся на заўтрашні дзень. Грамабой прышоў у марылін пакой амаль яшчэ на світанні. Ён быў вясёлы, і як толькі ўбачыў Марылю, адразу-ж сказаў да яе:

— Не журыся, таварыш Галубовіч, напісаў яшчэ лепш, як было, — і ён узяўся чытаць.

Марыля першай пайшла да трыбуны. Яна акінула позіркам залу і ўбачыла Грамабоя, які не зводзіў з яе вачэй. Потым зірнула на прэзідыум і заўважыла ў руках старшыні ўчарашні свой лісток. Старшыня ёй усміхнуўся, і, можа, гэтая ўсмешка надала Марылі смеласці. Праўда, голас яе спачатку быў ціхі, але потым набраўся сілы, і прысутныя пачулі:

— ...От у мяне тут таксама ёсць тэзісы, гэткія-ж самыя, як мы бачылі ўчора ў тэатры. Іх мне напісаў не Драмлюга, а наш таварыш Грамабой, які сядзіць вунь там, у трэцім радзе.

У зале ўзняўся шум, людзі на задніх радах аж паўставалі з месцаў, шукаючы вачыма Грамабоя... А голас Марылі гучаў, набіраўся сілы:

— Дык па гэтых тэзісах парасяты падзелены напалам, даваць свінням на корм трэба не кукурузу і бульбу, а нейкія, ліха іх ведае якія, кармавыя адзінкі, і пад кіраўніцтвам таварыша Грамабоя свінні будуць расці...

Грамабой тут ужо не ўтрымаўся. Ён, счырванелы, усхапіўся з месца і, не памятаючы сябе, крыкнуў:

— Гэта не па сутнасці, таварыш Галубовіч!

Грамабой чакаў, што яму пасрагадаюць, падтрымаюць яго. Але як толькі прысутныя ўбачылі Грамабоя, пачулі яго словы, рогат аж страсянуў залу. Грамабой сарваўся з месца і рынуўся за дзверы. А Марыля ўжо спакойна і не па пісанаму расказвала пра сваю работу на ферме.

# КРАСВОРД

**Склаў Н. Прус**

**Па гарызанталі:** 7. Спадарожнік планеты. 10. Багаты апякун навук і мастацтва. 11. Злучэнне некалькіх тонаў, успрыймаемых як гукавое адзінства. 12. Напрамак, перпендыкулярны курсу судна. 14. Месца, адкуль чытаюцца лекцыі. 15. Кольцападобны каралавы востраў. 16. Машына для пад'ёму і перамяшчэння цяжкасцей. 17. Верш з 14 радкоў. 19. Афіцыйны дакумент, пратакол. 21. Рух у паветры. 22. Фабрычнае кляймо. 24. Гароднiна. 26. Воінскае званне. 28. Верхняя палата парламента ў ЗША. 30. Зялёнае насаджэнне. 31. Крыніца атамнай энергіі. 32. Туга скручаны кавалак тканіны. 33. Запаленне слізістай абалонкі страўніка. 36. Пісьмовы загад, прадпісанне, распараджэнне. 38. Тоўстая кніга вялікага фармату. 41. Якарны ланцуг. 42. Рыба. 45. Мужчынскі голас. 46. Вялікі прамежак часу. 48. Частка артылерыйскай гарматы. 49. Дадатна зараджаны электрод. 50. Лесвіца на судне. 52. Злучэнне караблёў. 53. Рускі адмірал. 54. Раптоўны моцны парыў ветру. 55. Сістэматычны пералік. 56. Мінерал.

**Па вертыкалі:** 1. Чалавек, атрымаўшы вышэйшую ўзнагароду. 2. Музычны твор жалобнага характару. 3. Галаўны ўбор у вышэйшага духавенства. 4. Балотны газ. 5. Адступнік. 6. Чалавек, які любіць сваю айчыну. 8. Лінейка з дзяленнямі ў розных вымяральных прыборах. 9. Вялікая праезджая дарога. 13. Палачка, якой скульптар карыстаецца пры лепцы з гліны, воску. 14. Штучнае рэчышча. 18. Упакоўка. 20. Агульная назва служыцеляў культа якой-небудзь царквы. 21. Сукупнасць рухомага састава ў той ці іншай галіне транспартнай гаспадаркі. 23. Абаронца на судзе. 24. Функцыя вугла. 25. Скрыначка для хавання ручак, алоўкаў. 27. Галаўны ўбор. 29. Рух па кругу. 30. Лік. 34. Марскі рак. 35. Востраў у Міжземным моры. 37. Старадаўняя іспанская сярэбраная манета. 38. Жывёльны свет. 39. Імгла. 40. Прыбор для рэгулявання сілы току і яго напружання. 41. Від вяза. 43. Людаед. 44. Пагадовы запіс падзей. 46. Асабліва важны ўказ імператараў і каралёў. 47. Збор геаграфічных карт. 49. Слава, пашана. 51. Халодная зброя.




**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Рукапісы, прысланыя ў рэдакцыю, не звяртаюцца.

Здадзена ў набор 10.VI.55 г. Падпісана да друку 27.VI.55 г.
Фармат паперы 70×108[1]/[8]. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Тыраж 15 100 экз. **Цана 2 руб.**

АТ 05028. Заказ 406.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

**Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**



Прыгожыя мясціны ёсць пад Барысавам. Многа цікавага ўбачаць тут юныя турысты — вучні старэйшых класаў.

Фото М. Ананьіна.

